www.nv-online.info – электронны дадатак да друкаванай версіі газеты «Народная Воля».

*На прастор, на шырокі разлог*
*Выхадзі, мой народ, грамадо...*
**Якуб КОЛАС**

**№ 41 (4293)**

22 мая 2018 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай
і рускай мовах

Выдавец:
УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.

# Народная Воля

**Да ўвагі!**
*Хто хоча набываць газету ў офісе рэдакцыі — чакаем!*

ГАЗЕТА – ЧЫТАЧЫ

## «Народная Воля» служыць Беларусі і Вам, шаноўныя сябры

У чарговы раз нагадаем, на якіх пазіцыях грунтуецца рэдакцыйная палітыка "Народнай Волі".




**Мы служым не ўладзе.**
**Мы служым не партыям.**
**Мы служым не алігархам.**
**Мы служым не апазіцыі.**
**Мы служым свайму сумленню.**
**Мы служым Свабодзе Слова.**
**Мы служым дэмакратыі, якая на першае месца ставіць сілу закона, а не закон сілы.**
**Мы служым Чалавеку, які мае не толькі абавязкі, але і правы.**
**Мы служым Вам, чытачы!**
**Мы служым Беларусі!**

Вось так, шаноўныя сябры, мы служым Вам і Беларусі. І крыўдна чуць, калі той-сёй беспадстаўна папракае нас у тым, быццам "Народная Воля" здае свае пазіцыі. Не здае і ніколі не здасць, як не здрадзіць свайму галоўнаму прынцыпу – быць аб'ектыўнай, прынцыповай газетай! У аснове нашых публікацый – рэальнае жыццё, а не, прабачце, зубаскальства, ахайванне ўсіх і ўсяго. Мы не глядзім на свет толькі праз чорныя акуляры, свет у нашых вачах шматколерны. Таму, пагадзіцеся, на старонках газеты хапае як станоўчых, так і крытычных матэрыялаў. І лупцуем мы, калі ёсць нагода, без аглядкі на чыны і пасады. Для нас не існуе недатыкальных асоб, забароненых тэм.

Нас хвалюе адно – не згубіць Вас, прыхільнікаў "Народнай Волі". Нагадаем: завяршаецца падпіска на другую палову 2018 года, і важна не спазніцца. Калі ёсць цяжкасці з фінансамі, можна аформіць падпіску на любы тэрмін – на квартал, два месяцы, месяц. У любы час Вы можаце прадоўжыць сяброўства з любімай газетай.

**Вы – з «Народнай Воляй», «Народная Воля» – з Вамі!**

АНОНС

## Святлана АЛЕКСІЕВІЧ, лаўрэат Нобелеўскай прэміі:

# «Пакідаць барыкады я не збіраюся, хоць гэта небяспечнае месца для мастака – псуюцца зрок і слых».



**Цалкам гутарку са Святланай Алексіевіч "Я спадзяюся, што мы ўвойдзем у новую эпоху без крыві" чытайце на 3–4-й стар.**
**Фота Сяргея ШАПРАНА.**

АДНЫМ СКАЗАМ

*У Беларусі больш за 19 тысяч чалавек з ВІЧ-захворваннем.*

***

*Больш за 300 прадпрыемстваў маюць запазычанасць па абавязковых страхавых узносах перад Фондам сацыяльнай абароны насельніцтва.*

***

*У Столінскай бальніцы пасля ўколу антыбіётыку памерла жанчына.*

***

*Украіна спыняе ўдзел у рабоце статутных органаў Садружнасці Незалежных Дзяржаў.*

ІНЦЫДЭНТ

## Сяргей ЧАЛЫ:

# «Спадзяюся, што іх знойдуць…»

*У ноч на 19 мая невядомымі быў збіты незалежны эканамічны аналітык, аўтар праграмы "Эканоміка на пальцах" партала TUT. by* ***Сяргей Чалы****. Інцыдэнт адбыўся ў самым цэнтры Мінска. Пасля збіцця Сяргей апынуўся ў Бальніцы хуткай дапамогі з разбітым тварам, зламаным носам і чэрапна-мазгавой траўмай…*

– Да гэтага часу знаходжуся на бальнічным ложку, – *кажа эканаміст.* – Пасля чэрапна-мазгавой траўмы на працягу каля пяці дзён давядзецца праходзіць абследаванне: урачы павінны ўпэўніцца, што няма ніякіх пабочных эфектаў.

**– Міліцыя наведвалася да вас у бальніцу?**

– Безумоўна, бо пададзена ж заява аб збіцці. Таму традыцыйна апыталі, што і як адбывалася.

**– Вашы знаёмыя, якія ў той вечар былі разам з вамі і таксама трапілі пад нечыя кулакі, распавядалі, што праваахоўнікі як быццам не адразу хацелі прымаць заяву…**

– Шчыра кажучы, калі ўдарылі знянацку ў галаву, то на нейкі час я страціў прытомнасць, а зараз падзеі таго вечара ўспрымаюцца, як у тумане. Але памятаю, што міліцыянеры не з вельмі вялікім жаданнем выслухоўвалі нас. А пасля, як ужо казаў, у бальніцу зноў прыйшлі міліцыянеры і зноў распытвалі пра тое, што я ўжо распавядаў.

**– Падчас інцыдэнту вы знаходзіліся на вуліцы?**

– Так. Непадалёку ў двары была яшчэ адна кампанія, адзін чалавек да нас падыходзіў. Але я не памятаю, каб нехта канфліктаваў. Зусім верагодна, што менавіта гэтая кампанія на нешта пакрыўдзілася і пасля збіла мяне з таварышамі. Быў моцны ўдар, я спрабаваў закрыць галаву рукамі… Дарэчы, ні грошы, ні тэлефон у мяне не забралі. Проста пабілі – і ўсё.

**– Вы ўжывалі ў той дзень алкаголь?**

– Так, але не сказаў бы, што мы былі моцна п'яныя, як, магчыма, некаторыя думаюць. Пасядзелі ў бары, на вуліцы вялі размовы, абмяркоўвалі розныя тэмы. Знаходзіліся ў абсалютна нармальным стане.

**– Некаторыя звязваюць інцыдэнт з вашай прафесійнай дзейнасцю. Маўляў, вы даволі крытычна распавядаеце пра беларускую эканоміку, маглі і за гэта правучыць…**

– Я не думаю, што гэта так. У мяне было ўжо вельмі шмат перадач, усе яны прыкладна аднолькавай танальнасці. Магчыма, калі б і знайшліся пакрыўджаныя, то яны праявілі б сябе значна раней.

**– У цэнтры горада шмат відэакамер назірання. Можа быць, гэта дапаможа міліцыі знайсці тых, хто на вас напаў.**

– Вельмі на гэта спадзяюся.

**Алесь СВЯТЛАНІЧ.**

ІХ ДЭМАКРАТЫЯ

# Мадура перамог на прэзідэнцкіх выбарах у Венесуэле

Як паведамляе агенцтва Reuters са спасылкай на дадзеныя ЦВК, кіраўнік Венесуэлы Нікалас Мадура заручыўся падтрымкай 68% тых, хто прагаласаваў. Ён значна апярэдзіў бліжэйшага канкурэнта – экс-губернатара штата Лара Энры Фальконе, за якога прагаласавалі ўтрая менш выбаршчыкаў.

Пры гэтым ЦВК пацвердзіла нізкую яўку. На выбарчыя ўчасткі прыйшло крыху больш за 46% грамадзян. Для параўнання: у 2013 годзе прагаласавалі 80% выбаршчыкаў.

Навіна аб пераабранні Мадуры выклікала радасць у яго прыхільнікаў у Каракасе, дзе сотні людзей з феерверкамі зладзілі танцы ля прэзідэнцкага палаца.

Апазіцыя, частка якой байкатавала выбары, заявіла аб тым, што галасаванне праходзіла з масавымі парушэннямі. Праціўнікі Мадуры абвінавацілі яго, у прыватнасці, у запалохванні людзей. Выбаршчыкаў у бедных кварталах папярэджвалі, што ў выпадку нізкай яўкі іх могуць пазбавіць дапамогі.

Між тым цэлы шэраг краін заявілі, што не будуць прызнаваць вынікі выбараў. Сярод іх ЗША, Аргенціна, Чылі.

ДАРЭЧЫ

### Венесуэльская сістэма галасавання – адна з самых дасканалых у свеце

***Кіраўнік Цэнтральнай выбарчай камісіі Расіі Уладзімір Чураў лічыць сістэму галасавання ў Венесуэле бездакорнай.***

*"Пры венесуэльскай сістэме, цалкам аўтаматызаванай ... практычна выключаны чалавечы фактар пры падліку галасоў. Гэта значыць, там 100% участкаў абсталявана электронным прыстасаваннем для галасавання. Усё гэта адбывалася пад наглядам міжнародных назіральнікаў. Таму немагчыма ўявіць сабе, якія могуць быць недакладнасці пры цалкам аўтаматызаваным падліку галасоў"*, – сказаў Чураў у эфіры радыёстанцыі "Весці ФМ".

Цікава, што за дзень да выбараў у Венесуэле ўводзіцца нацыянальны "сухі закон" – у краіне лічаць, што прымаць важныя палітычныя рашэнні трэба на цвярозую галаву…



СІТУАЦЫЯ

# На маршрут без конкурсу. Не для ўсіх

Міністэрства транспарту і камунікацый падрыхтавала і выставіла на грамадскае абмеркаванне праект указа прэзідэнта «Аб некаторых пытаннях ажыццяўлення міжгародніх аўтамабільных перавозак пасажыраў», які тычыцца работы міжгародніх маршрутных таксі.

Праект, па сутнасці, утрымлівае толькі адзін абзац. Прапаноўваецца кампаніям, якія маюць дамову на ажыццяўленне *рэгулярных* перавозак, абслугоўваць пасажыраў без правядзення конкурсаў да 31 снежня 2018 года.

Пра "нерэгуляршчыкаў", якія настойвалі на поўнай адмене конкурснай сістэмы размеркавання маршрутаў і пераходзе на паведамляльны прынцып работы, у дакуменце ні слова.

**Ігар ЗАЛЕСКІ.**

СЛЫШАЛИ?

# Недавно получивший 8 лет колонии бывший топ-менеджер «Беларусбанка» оказался на свободе

**Бывший исполнительный директор «Беларусбанка» Анатолий Боговик, приговоренный минувшей осенью к 8 годам колонии, вышел на свободу. Об этом TUT.BY сообщили несколько не связанных между собой источников.**

*«Видели Боговика. В хорошем настроении. Говорят, где-то неделю как вышел»,* – рассказывает один из собеседников.

Известно, что обжалование вынесенного приговора не дало серьезных результатов, а жалоба в порядке надзора, скорее всего, не подавалась. Поэтому основным вариантом выхода Боговика на свободу видится помилование президентом.

Напомним, Анатолий Боговик находился под стражей с 4 августа 2016 года.

Как следовало из обвинения, Боговик, являясь руководителем расчетного центра банковских пластиковых карт и председателем конкурсной комиссии по закупке товаров, работ, услуг «Беларусбанка», принял от занимавшего на тот момент должность гендиректора Банковского процессингового центра Геннадия Зубарева денежные средства на общую сумму более 94 тысяч долларов путем поэтапного перечисления. При этом он обещал Зубареву содействие в победе Банковского процессингового центра в конкурсе на закупку банкоматов для нужд «Беларусбанка».

13 октября 2017 года Боговик был приговорен к 8 годам лишения свободы и штрафу в 500 базовых величин.

Анатолий Боговик известен тем, что активно продвигал и популяризировал безналичные расчеты. До того как в 2014 году стал исполнительным директором банка, он много лет возглавлял расчетный центр банковских пластиковых карт «Беларусбанка».

Анатолий Боговик – сын известного белорусского футболиста Анатолия Боговика, выступавшего в чемпионате СССР за минское «Динамо». Но из-за травмы Боговик-младший не смог продолжить спортивную карьеру. Однако своим самым большим достижением, связанным со спортом, он называл участие в эстафете олимпийского огня на Олимпийских играх – 2010 в Ванкувере. Он был горд, что оказался первым гражданином Республики Беларусь, который нес олимпийский огонь.

ЗАКУЛІССЕ

# Нашы ў Амерыцы

*Палітыкі-апазіцыянеры Анатоль Лябедзька, Віталь Рымашэўскі і Юрась Губарэвіч правялі шэраг сустрэч з амерыканскімі дзяржаўнымі службоўцамі і палітыкамі.*



"16 мерапрыемстваў і каля сотні паціснутых рук за тры дні напружанай праграмы ў Вашынгтоне. Шэраг міжнародных інстытутаў і аналітычных цэнтраў, Кангрэс, Сенат і ДзяржДэп (куды ж без яго!), – *даў справаздачу ў "Фэйсбуку" Юрась Губарэвіч*. – З гэтага боку Атлантыкі на фоне глабальных міжнародных праблем Беларусь выглядае маленькай кропляй у віруючым акіяне. Аднак увага да прынцыповых пытанняў дэмакратыі, свабоды і правоў чалавека застаецца нязменнай".

**Вера ВІР.**

**На здымку: Юрась Губарэвіч і Анатоль Лябедзька з бел-чырвона-белым сцягам каля Белага дома.**

ЗАКУЛІССЕ

# Ці будзе міністр адукацыі выкладаць у Нацыянальным універсітэце?

*Дэпутат Палаты прадстаўнікоў Алена Анісім днямі задала шэраг вострых пытанняў міністру адукацыі Ігару Карпенку.*

*"Народная Воля" пацікавілася закуліссем гэтай сустрэчы.*





**– Спадарыня Алена, ведаю, што вы абмяркоўвалі адразу некалькі важных пытанняў…**

– Перш за ўсё размова вялася пра адкрыццё рознаўзроставых груп з беларускай мовай выхавання ў дзіцячых садках Першамайскага раёна Мінска. Што тычыцца рознаўзроставай групы, то міністр сказаў, што трымае пытанне на кантролі.

Таксама задавала міністру пытанні па Кодэксе аб адукацыі – чыноўнікі абяцалі, што дакумент паступіць у Палату прадстаўнікоў адразу на дзвюх мовах. Міністр пацвердзіў, што так і будзе. Але ж самі разумееце: паабяцаў – не значыць, што зрабіў. Сёння праблема ў тым, што некаторыя могуць шмат чаго наабяцаць, а калі справа даходзіць да выканання, то вельмі часта даюць задні ход.

**– А стварэнне Нацыянальнага ўніверсітэта імя Ніла Гілевіча з Ігарам Карпенкам абмяркоўвалі?**

– Так, закідвала папярэднія пытанні. Аднак, паводле маёго асабістага адчування, будзе вялікі супраціў таму, каб Нацыянальны ўніверсітэт з беларускай мовай навучання распачаў сваю дзейнасць. Гэта, між іншым, вынікала і з нядаўняга інтэрв'ю "Нашай Ніве" Сяргея Каспяровіча, які ўзначальвае галоўнае ўпраўленне прафесійнай адукацыі Міністэрства адукацыі. На думку гэтага чыноўніка, Беларусі не патрэбны асобны беларускамоўны ўніверсітэт, дастаткова тых, што ёсць.

Я нават не ведаю, як каментаваць пасаж пра тое, што патрэбна 20 заяў – і беларускамоўныя групы будуць адкрывацца ў любой навучальнай установе. Прабачце, але гэта лухта! Міністэрства адукацыі з'яўляецца заснавальнікам некалькіх універсітэтаў і магло б даўно абвясціць, што з гэтага ці з наступнага года набор на ўсе факультэты на ўсе спецыяльнасці будзе адбывацца на беларускай мове. І не трэба ніякіх заяў. Гэта чыста прававое рашэнне! Але замест гэтага нам чамусьці ўвесь час кажуць: калі хочаце па-беларуску навучацца, то павінны дадаткова нешта рабіць. А на рускай мове адразу забяспечана ўсё! Карацей, ёсць пытанні…

З іншага боку, я разумею, што само Міністэрства адукацыі цяпер перажывае не лепшыя часы, а мусіць рэфармавацца. Але, нягледзячы ні на што, справа па стварэнні ўніверсітэта будзе рухацца.

Дарэчы, і міністр таксама не сказаў, што будзе спрыяць і дапамагаць у стварэнні Нацыянальнага ўніверсітэта…

**– Цікава, на якой мове ў вас з ім вялася гаворка?**

– На беларускай. У свой час Ігар Васільевіч Карпенка выкладаў гісторыю Беларусі ў Педуніверсітэце на беларускай мове.

**– Дык можа, ёсць сэнс яго таксама ўключыць у базу ўніверсітэцкіх выкладчыкаў? Можа, тады ў яго будзе асабістая зацікаўленасць у стварэнні новай ВНУ? Бо міністр – гэта ж не пажыццёвая пасада, скінуць могуць у любы момант.**

– *(Усміхаецца.)* Неблагая ідэя. Прапаную нашаму выконваючаму абавязкі рэктара ўніверсітэта Алегу Трусаву такі варыянт.

**– Праўда, Карпенка камуніст, але, як кажуць, ва ўсіх свае недахопы…**

– Кожны з нас мае свае палітычныя і грамадскія погляды, але гэта не праблема, калі мы можам знайсці той грунт, на якім паразумеемся дзеля карысці Беларусі.

Не так даўно ў нашага ўніверсітэта з'явіўся ўласны рахунак, мы атрымалі рэгістрацыю ўстановы адукацыі, стварылі базу выкладчыкаў. Амаль кожны дзень прыходзяць прапановы аб супрацоўніцтве – нават з замежжа. Зараз вядзём працу па адкрыцці падрыхтоўчых курсаў, якія распачнуцца восенню гэтага года.

**– Сёння беларусы ахвотна ахвяруюць грошы на ўніверсітэт? Можа, за некалькі дзён назбіралася велізарная сума?**

– Буйных пералічэнняў пакуль няма – людзі напачатку спрабуюць, ці працуе рахунак, якія працэнты бяруцца. Але я спадзяюся, што да восені рахунак папоўніцца больш значнымі сумамі.

**– Сваіх калег па Авальнай зале не прасілі звярнуць увагу на адкрыццё ўніверсітэцкага рахунку? Таму ж Ігару Марзалюку не прапаноўвалі пералічыць частку дэпутацкага заробку на добрую справу?**

– *(Усміхаецца.)* Справа ў тым, што Марзалюк вельмі заняты чалавек, і ў мяне спраў хапае. Мы з ім, па праўдзе кажучы, мала перасякаемся. І пра ўніверсітэт пакуль яшчэ прадметна не размаўлялі.

**– Калі не блытаю, у свой час ён прасіў вас падрыхтаваць пакет дакументаў па выкладчыках… І што далей? На гэтым ягоная цікавасць да стварэння Нацыянальнага ўніверсітэта спынілася?**

– Для яго стварэнне прыватнага беларускамоўнага ўніверсітэта не самая прыярытэтная справа. Але, думаю, калі спатрэбіцца, я паспрабую заручыцца ягонай падтрымкай. Спадзяюся, не адмовіць. Падтрымаў жа ён ідэю правядзення "круглага стала" па беларусізацыі нашага заканадаўства!

**Марына КОКТЫШ.**

*ДА ВЕДАМА*

*Ахвяраванні на дзейнасць прыватнай адукацыйнай установы **"Універсітэт імя Ніла Гілевіча"** можна пералічыць на рахунак **BY49BLBB30150193050167001001** BIC **BLBBBY2X** УНП **807000028** АКПА **37558116** (ААТ "Белінвестбанк").*

ШТРЫХ

# Ці заслужыла такую высокую пенсію былы дэпутат Таіса Данілевіч?



Таіса Данілевіч, пры якой у 2011 годзе палітызавана звольнілі са школы настаўніцу гісторыі Талькаўскай сярэдняй школы Пухавіцкага раёна Наталлю Ільініч, днямі стала гераіняй публікацыі ў абласной прэсе.

Напэўна, тэкст выйшаў з нагоды 60-годдзя Данілевіч, якое яна адзначыла 13 мая. Былая чыноўніца і дэпутат Палаты прадстаўнікоў 5-га склікання распавяла, як жыве зараз на пенсіі, і ўспаміна ла, колькі добрых спраў здзейсніла за тыя часы, што ўзначальвала ўпраўленне адукацыі Мінаблвыканкама і калі была дэпутатам Палаты прадстаўнікоў.

Мінскі абласны ліцэй для адораных дзяцей, аддзяленне гемадыялізу пры Любанскай раённай бальніцы стварыліся сапраўды пры яе непасрэдным удзеле. Але ці памятае Таіса Данілевіч вясковую настаўніцу гісторыі Наталлю Ільініч, якую проста нахабна выкінулі са школы за некалькі гадоў да пенсіі? І Данілевіч – у тыя часы кіраўнік упраўлення адукацыі вобласці – ніяк на гэта не адрэагавала. Больш за тое, Наталля Ільініч так і не змагла знайсці працу ў школе: нідзе не прымалі. Афіцыйна з Ільініч не працягнулі кантракт быццам бы з прычыны яе прафесійных хібаў, але відавочна было тое, што Ільініч, адна з лепшых настаўніц раёна, згубіла працу не з-за гэтага, а за сваю грамадзянскую пазіцыю: як сябра Партыі БНФ была на Плошчы 19 снежня 2010 года пасля прэзідэнцкіх выбараў у Беларусі.

У нядаўнім тэксце пра Данілевіч сцвярджаецца, што і на пенсіі яна *"не памяняла распарадак дня. Раніцу звыкла пачынае з гімнастыкі і аблівання халоднай вадой. Шмат чытае і гуляе"*.

Дарэчы, пенсія былых дэпутатаў Палаты прадстаўнікоў, якія маюць 10 гадоў стажу на дзяржслужбе, адпаведна ўказу А.Лукашэнкі складае 65 працэнтаў ад зарплаты дзеючых дэпутатаў. Апошнія сёння зарабляюць 2100 рублёў і нават болей. То бок дэпутацкая пенсія ў Беларусі складае прыблізна 1365 рублёў, у той час як працоўная па ўзросце не дацягвае і да 350 рублёў.

Ці заслужыла Таіса Данілевіч такой падзякі ад дзяржавы? Ад тых, каго яна бездакорна слухала і чые ўказанні без ваганняў выконвала, можа, і заслужыла. А вось ці заслужыла яна гэта ў шырокай грамадскасці?

**Вольга ГРЫНЯВІЦКАЯ.**

ИЗ ПЕРВЫХ УСТ

# Анна КАНОПАЦКАЯ: «Нет времени даже поплакать…»

*В последнее время на члена Объединенной гражданской партии и депутата Палаты представителей Анну Канопацкую обрушился шквал запредельной критики. Причем осуждают и свои, и чужие!*

*По мнению некоторых, Анна все делает не так. И в Палате представителей недостаточна активна, и в председатели партии баллотируется совершенно зря. Канопацкую называют чуть ли не агентом КГБ, намекают, что ее руками власть может развалить успешную партию.*

*А что по этому поводу думает сама Анна? Как реагирует на уничтожающую критику? Не передумала ли выставлять свою кандидатуру на предстоящих выборах в ОГП?*



**– Анна, такое впечатление, что сегодня против вас развязали самую настоящую информационную войну…**

– Собака лает – караван идет. Мне не стыдно за свою деятельность. Своей работой в Палате представителей я демонстрирую лидерские качества, готовность работать в любых условиях и добиваться успеха. Просто не вы первая за последнее время спрашиваете о том, что происходит. Некоторые называют это настоящей травлей… Поначалу я считала, что это столкновение личных амбиций – моих и Анатолия Лебедько. Но в эту войну включились и некоторые другие люди…

**– Интересно, а вам в глаза все это говорят? Или о своих недостатках и упреках в свой адрес узнаете из прессы?**

– Со мной на эти темы никто не разговаривает. Меня исключили из всех официальных чатов Политсовета, меня не приглашают на заседания. Даже о том, где и когда проводятся отчетно-выборные конференции, я узнаю на сайте ОГП.

Меня ограничили в доступе к партийному сайту. Я обратила на это внимание, может, конечно, что-то изменится… Но факт остается фактом: я провела столько разных мероприятий, но о них можно было прочитать где угодно, но только не на сайте ОГП.

Откровенно говоря, я недоумеваю: как партия, которая борется за проведение свободных и честных выборов в стране, может действовать такими методами?

**– Есть сегодня в ОГП те, кто вас поддерживает?**

– Есть. И это не руководство партии, а рядовые члены.

**– Пока лишь вы и Василий Поляков официально заявили о том, что претендуете на кресло, в котором пока еще сидит Анатолий Лебедько.**

– Да, это так. Но я просмотрела выступления Анатолия Лебедько накануне предыдущих отчетно-выборных съездов. Он и в 2012 году, и сейчас говорит, что оставляет себе небольшой шанс, полпроцента на то, что, возможно, будет баллотироваться на пост председателя.

**– Как вы готовитесь к отчетно-выборному съезду ОГП?**

– Работаю. Планирую принять участие во всех областных конференциях. Надеюсь, на минской тоже буду, если мне скажут, где и во сколько она будет проходить.

**– Анна, на фотографиях в социальных сетях вы всегда с улыбкой. Назло врагам? Или от услышанного в свой адрес слезы все же наворачиваются?**

– У меня нет времени даже поплакать. Я понимаю, что глупо опускать руки, расстраиваться. Нужно просто еще больше работать. И пусть у меня нет поддержки среди верхушки ОГП, зато есть поддержка простых людей. Я это чувствую. Поэтому иду вперед.

**– А если не получится стать председателем, уйдете из партии?**

– Нет. Учту ошибки, проанализирую, сделаю выводы и буду работать с удвоенной силой.

**– Вашему оптимизму и крепкой нервной системе можно позавидовать.**

– Я не считаю, что своими действиями наношу какой-то вред ОГП, дискредитирую партию и ее идеи. Я немало делаю. И, заметьте, делаю это одна, без глобальной поддержки ОГП. Оптимизма не теряю. Прорвемся!

**Марина КОКТЫШ.**

ВАС ИНТЕРЕСУЕТ…

# По долгам не заплатили…

*Я пенсионер, мне 70 лет, работал мастером на заводе в Гродно. В советские времена имел вклад в Сбербанке на сумму 8 тысяч советских рублей, которые, естественно, потерял. Беларусь, пожалуй, единственная из бывших республик СССР, которая не вернула вклады своим гражданам. И это при том, "што ў нас самая моцная эканоміка ў Еўропе".*

*Хотелось бы получить ответ на страницах «Народной Воли», как другие республики бывшего Советского Союза, например Россия, рассчитались со своим народом? В каких размерах выплатили суммы по вкладам? Дождутся ли когда-нибудь белорусы компенсации своих вкладов? Ведь нам наши правители обещали, а слово свое не сдержали. Получается, нас обманули.*

**Генрих Станиславович МИХАЙЛОВСКИЙ.**

*Гродно.*




Вы правы, вернуть советские вклады белорусам обещали не раз, и в этой связи Александр Лукашенко издавал специальные указы. Например, в 1996 году – *«О компенсации вкладов населения»*, согласно которому в 1996–1997 гг. компенсации подлежали вклады ветеранов Великой Отечественной войны, имевших сбережения на 1 января 1992 года. Остаток вкладов на указанную дату увеличивался в 1000 раз.

В 1998 году Лукашенко подписал еще один указ – №229 *«О компенсации обесценения вкладов и облигаций целевого беспроцентного займа 1990 года на приобретение товаров длительного пользования (ценных бумаг)»*, который касался уже всех вкладчиков, потерявших деньги с развалом Советского Союза. В соответствии с документом правительство должно было разработать механизм компенсаций и полностью рассчитаться с людьми к 31 декабря 2007 года. Чиновники поставленную задачу выполнили, но какими были суммы компенсаций? Лучшего ответа на этот вопрос, чем процитированное в 2007 году многими СМИ возмущенное заявление тогдашнего депутата Палаты представителей Николая Дубовика на одном из пленарных заседаний, не найдешь.

*«Моих детей на днях пригласили прийти в банк,* – рассказывал депутат. – *А сегодня, буквально перед заседанием, я позвонил в банк, представился сыном и спросил, ради чего меня приглашают. Мне ничего не ответили. Сказали, что это тайна, что нужно прийти с паспортом и получить вклад. Естественно, каждый человек идет в банк, тратит время и выходит с огромным возмущением.*

*Для примера я скажу так: у нас в семье было пятеро детей, у каждого есть дети. И перед операцией отец положил каждому своему внуку по тысяче или по пятьсот рублей. Сестра моя младшая – она умная оказалась – за 500 рублей купила прицеп "Зубренок". Вторая сестра (тоже младшая) купила большой мужской перстень. Все за те же пятьсот рублей. А мои дети, если придут в банк завтра, получат 999 рублей. Так может, давайте сделаем так, чтобы не злить население. Я понимаю пожилых людей – мы их уже разозлили. Нельзя молодежь так противопоставлять, настраивать против правительства. Если можно, давайте приостановим это дело. Я, например, своих детей в банк не пущу».*

999 рублей в 2007 году равнялись 46 центам! Тогда 1 доллар стоил 2148 рублей! То есть в советские времена за эти деньги можно было купить прицеп «Зубренок», а в современной Беларуси – несколько граммов колбасы!

В 2016 году минчанка Татьяна Бараула пыталась получить компенсацию за вклад, оформленный на ее имя бабушкой в 1990 году. В «Беларусбанке» Татьяне выплатили 5 копеек (!) за 1500 советских рублей.

Сегодня наши чиновники, готовя официальные ответы на вопросы о компенсации советских вкладов, заявляют, что вклады компенсированы, поскольку срок действия указа №229 от 1998 года истек 31.12.2007 и признают, что *«по причине того, что сумма компенсации рассчитывалась с учетом роста индекса потребительских цен только до 01.01.1996, выплачиваемый размер компенсации был незначителен»*. Хотя «незначительный» – в данном случае верх цинизма. Размер компенсации был грабительски унизительный, и многие белорусы даже не пошли в банк, чтобы получить эти копейки.

Стоит ли сегодня в правительстве вопрос о том, чтобы вернуть вкладчикам, а также их наследникам компенсацию за утерянные родителями, бабушками-дедушками советские вклады? Нет!

*«Необходимо отметить, что компенсационные выплаты по вкладам осуществляются за счет средств государственного бюджета,* – дает ответ Национальный банк Беларуси на своем сайте в разделе «Часто задаваемые вопросы». – *В настоящее время в бюджете страны отсутствуют необходимые для данных целей средства. В этой связи законодательные акты о компенсации вкладов в последнее время не принимались.*

К слову стоит сказать, что суммы, которые «сгорели» на вкладах, были огромнейшие. Например, у белорусов на 1 июня 1991 года на сберкнижках оставалось порядка 16,4 миллиарда советских рублей. Тогдашним руководством республики эта сумма была отнесена на внутренний государственный долг. Россия заявила, что у жителей Российской Федерации «сгорело» порядка 345,5 миллиарда советских рублей.

Как сообщает Минэкономики России, до 2013 года российские власти компенсировали вкладчикам более 150 млрд российских рублей. За 1 сгоревший советский рубль в России выплачивали 85 рублей. Но выплаты компенсаций в России возобновлены. Производиться они будут в течение 2018–2020 годов при условии, что ранее вкладчики компенсации не получали или получали частично. Сумма компенсации рассчитывается исходя из года закрытия вклада, года рождения вкладчика и ранее полученной компенсации. Какие же суммы получают россияне на руки? На сайте Сбербанка читаем: *«Если вкладчик был рожден в 1940 году, на счете лежало 10.000 рублей, и он был закрыт в 2000 году, то Сбербанк вернет 30.000 рублей»*. 30 тысяч – это приблизительно 500 долларов. Немного, но все же не оскорбительные копейки, как в Беларуси. Кроме того, около 6000 рублей (около 100 долларов) российские власти решили выплатить наследникам вкладчиков, умерших после 2001 года и не успевших получить то, что им положено. При этом не имеет значения, когда этот счет был закрыт...

Вернули ли долг своим гражданам власти других республик? Все очень относительно.

В Азербайджане выплаты компенсации за сгоревшие советские вклады завершились несколько лет назад. Жители страны жаловались, что им возвращают суммы, совершенно не соответствующие размерам их вкладов советского периода. Власти Казахстана тоже компенсировали вкладчикам потерянные деньги. Расчет был такой: 100 долларов за 1500 советских рублей. В Литве давали 1 лит за 1 советский рубль, максимальная сумма компенсации составляла 1500 евро.

В Украине до сих пор компенсация по советским вкладам не завершена. В 2008 году в Украине планировалось производить единовременные выплаты, вкладчики с советскими сберкнижками могли получить до 1 тысячи гривен на руки, а их наследники – до 500 гривен. Украинцы называли такую компенсацию «пародией», но и эти деньги получить смогли далеко не все: с 2009 года выплаты по советским вкладам приостановили. Причина в нехватке бюджетных средств. В конце прошлого года украинские депутаты предложили отказаться от идеи выплаты компенсации деньгами. Долг перед вкладчиками предлагалось гасить списанием с них платы за ЖКУ, приобретением лекарств в государственных аптеках, оплатой стоимости обучения детей, внуков в вузах и средних специальных заведениях. Но эту инициативу не поддержали.

**Мария ЭЙСМОНТ.**

Народная Воля
http://www.nv-online.info
22 МАЯ 2018 г.

*31 мая адзначыць свой юбілей Святлана Алексіевіч – першы Нобелеўскі лаўрэат у гісторыі Беларусі. Найганаровейшай у свеце прэміяй у 2015 годзе было адзначана яе пяцікніжжа "Галасы Утопіі" – з фармулёўкай: "За шматгалосую творчасць – помнік пакутам і мужнасці ў наш час".*

*Творы нашай зямлячкі карыстаюцца попытам на ўсіх кантынентах – толькі за апошнія некалькі гадоў у яе выйшла 356 кніг на розных мовах. У гэтыя перад'юбілейныя дні з пісьменніцай сустрэліся і пагутарылі "народавольцы" Алена Малочка і Міхась Скобла.*

## Святлана АЛЕКСІЕВІЧ, лаўрэат Нобелеўскай прэміі:

# «Я спадзяюся, што мы ўвойдзем у новую эпоху без крыві…»

**– Святлана Аляксандраўна, ці памятаеце вы сваю самую першую ўзнагароду? У 1970 годзе быў абвешчаны ўсесаюзны конкурс на лепшае сачыненне сярод студэнтаў да 100-годдзя з дня нараджэння Леніна. І вы, студэнтка журфака БДУ, занялі першае месца на тым конкурсе! Але прэмію не атрымалі. Чаму? Па чутках, вы пайшлі на адкрыты канфлікт з дэканатам, абараняючы кагосьці са студэнтаў. Гэта праўда?**

– Так, прэмію мне тады прысудзілі, але так і не далі. Дэталі таго канфлікту памяць не захавала. Але думаю, што не прэміравалі мяне з-за агульных паводзін: за смелыя размовы, за дзёрзкія пытанні выкладчыкам.

**– Але адкуль у вас, тагачаснай студэнткі, была сіла супрацьстаяць старэйшым: дэканату, выкладчыкам?**

– Мабыць, незалежнасць мне ўласцівая ад прыроды, а не таму, што я была дачкой дырэктара школы. За перамогу ў тым конкурсе, дарэчы, узнагароджвалі яшчэ і паездкай па ленінскіх мясцінах за мяжой. Але я вось аказалася нявартая такога гонару...

**– Прайшло з таго часу 45 гадоў, і вы атрымалі Нобелеўскую прэмію. Відаць, цяжка насіць лаўрэацкую "карону"?**

– Сапраўды нялёгка. Ты ператвараешся ў нейкі сімвал. Проста гутарыш днём у самалёце з суседам, а літаральна ўвечары чытаеш свае словы на нейкім сайце. Я ж не выказваюся ўвесь час як нобелеўскі лаўрэат, я размаўляю з людзьмі як звычайны чалавек, з людскімі рэакцыямі, эмоцыямі. Але атрымліваецца, што ты ўвесь час павінен быць зашпілены на ўсе гузікі. Да гэтага цяжка прывыкнуць.



### «Летась беларуская дзяржава ў выглядзе падаткаў узяла з мяне 250.000 тысяч долараў»

**– На беларускамоўнае выданне вашага пяцітомніка "Галасы Утопіі" праз краўдфандынгавую пляцоўку "Ulej.by" было сабрана ў шэсць разоў больш грошай, чым патрабавалася. Гэта абсалютны рэкорд сярод падобных акцый. З гэтага вынікае, што народ вас любіць. Але часам гучаць галасы скептыкаў: нобелеўская лаўрэатка, а грошы збіраюць талакой. А для вас самой што азначае такая народная ўвага, выяўленая ў грашах?**

– Цудоўна, што наш народ можа сабраць грошы на кнігу. На "Галасы Утопіі" ці на нейкую іншую. Я гэтаму рада. Але каб надзімацца ад гонару, як індык... Гэта не пра мяне. Добра, што мае кнігі стануць больш даступнымі для суайчыннікаў. На кніжных кірмашах я часам падпісваю па тры-чатыры асобнікі ў адны рукі. І калі да мяне падыходзіць настаўніца ці лекар (я заўсёды пытаюся: хто вы па прафесіі?), я вельмі ўдзячная гэтым людзям. Мне здаецца, калі б у Беларусі змянілася ўлада і "адкрыла шлюзы", то мы ўбачылі б шмат новых людзей, пачулі б шмат новых ідэй, грамадства адразу прыйшло б у рух.

**– Іван Бунін, нобелеўскі лаўрэат 1933 года, даволі хутка растраціў сваю прэмію і ў далейшым жыў вельмі бедна. Пісаў сябрам у ЗША: "Не дайце памерці з голаду нобелеўскаму лаўрэату!" А вы, Святлана Аляксандраўна, практычны чалавек?**

– У мінулым годзе беларуская дзяржава ў выглядзе падаткаў узяла з мяне 250.000 долараў (гэта і з прэміі, і з замежных публікацый). Сёлета – ужо 75.000. Куды пайшлі гэтыя грошы, я не ведаю. А хацелася б ведаць.

**– За два гады вы папоўнілі дзяржаўны бюджэт Беларусі на 325.000 долараў – не раўнуючы як нейкі прыбытковы завод! А яшчэ ж і дабрачыннай дзейнасцю займаецеся. Настаўніца з вёскі Талька Наталля Ільініч... Даследчык сталінскіх рэпрэсій Леанід Маракоў... Яшчэ адна настаўніца Ганна Севярынец і яе кніга пра Уладзіміра Дубоўку... Чаму вы палічылі сваім абавязкам дапамагчы гэтым людзям?**

– Дапамагаць тым, хто мае патрэбу ў вашай дапамозе, – гэта нармальна. Як раней казалі – "аддай дзесяціну". Наталлю Ільініч з ідэалагічных меркаванняў выгналі са школы і нават прыбіральшчыцай не дазволілі працаваць. Але яна моцная жанчына і не пайшла з паклонам – завяла гаспадарку, карову, свойскіх птушак... Мне таксама падабаецца і пазіцыя настаўніцы Ганны Севярынец. У маёй сям'і было чатыры пакаленні настаўнікаў, таму мне заўсёды цікавыя педагогі.

**– Вы самі такіх людзей знаходзіце?**

– Не заўсёды. Часам да мяне звяртаюцца, а часам я сама чытаю пра сям'ю, якая з пяццю дзецьмі апынулася на вуліцы. Патрэбны першы ўнёсак на кватэру, а пазычыць няма ў каго – людзі ў тупіку. Як тут не дапамагчы?

**– А як ставіцца да вашай дабрачыннасці вашы блізкія?**

– Мяркую, я не пакрыўдзіла і блізкіх. Але лічу, што маладыя людзі павінны самі змагацца за сваё месца пад сонцам. Нельга ўзяць і вырашыць за кагосьці яго праблемы.

### «Неяк беларусы ў замежжы папракнулі мяне, што я не ўзначаліла нацыянальны рух»

**– Святлана Аляксандраўна, вы адчуваеце, што ад вас як лаўрэата Нобелеўскай прэміі беларускае грамадства чакае нечага такога?.. Я не пра матэрыяльную дапамогу...**

– Так, адчуваю. Неяк у Германіі я сустракалася з беларусамі, якія там прыжыліся (імёны не называю), дык яны папракнулі мяне, што я не ўзначаліла нацыянальны рух. Але гэта не маё. Я проста жыву і думаю. У мяне свой шлях. А палітыцы трэба аддавацца цалкам, займацца ёю штодня, палітыка – гэта не вязанне шкарпэтак: сёння трохі павязаў, заўтра... Пры такім стаўленні нічога не атрымаецца. Возьмем Уладзіміра Някляева – ён цяпер вершы піша ці палітыкай займаецца? Я штосьці не разбяруся.

**– Някляеву дзіўным чынам удаецца сумяшчаць літаратуру і палітыку. Мяркуючы па колькасці выдадзеных апошнім часам кніг, палітыка для яго не перашкода, а наадварот, своеасаблівы стымулятар.**

– Ну, значыць, у яго гэткі зайздросны тэмперамент. У мяне – не, для абдумвання кніг мне неабходна адзінота. Палітыка для мяне – усё ж спрошчаны свет. Тым больш што сур'ёзнай палітыкі ў нас няма, няма палітычных дыскусій. Палітыка ў нас зводзіцца да падтрымкі ці, наадварот, крытыкі Лукашэнкі. Але любая з'ява мае свае глыбінныя карані. Скажам, адкуль у нас рабства як норма, адкуль гэтая непавага да іншага чалавека? Ну што гэта за пагрозы міністрам з вуснаў прэзідэнта краіны "Пойдзеце ў кайданках!"? Узорам нацыянальнага лідара для мяне быў Вацлаў Гавел – інтэлігентны, спакойны, адукаваны.

**– Вы шмат разоў называлі сваімі настаўнікамі Алеся Адамовіча і Васіля Быкава. Бачым – у вас на паліцах стаяць іх кнігі. З Адамовічам зразумела – ён адзін з аўтараў кнігі "Я з вогненнай вёскі". А якія ўрокі вы атрымалі ад Быкава?**

– Адамовіч для мяне – гэта не толькі "Я з вогненнай вёскі", хоць гэта кніга пэўны штуршок мне дала. Адамовіч – выдатна адукаваны, з шырокім еўрапейскім светапоглядам чалавек. Я не ведаю другога такога беларускага пісьменніка, які так заўзята пераймаўся б шматлікімі гуманітарнымі праблемамі. А Васіль Быкаў... Памятаю, яшчэ студэнткай журфака я была на практыцы ў "Гродзенскай праўдзе", а Васіль Уладзіміравіч працаваў там літкансультантам. Прыгадваю яго сціплы кабінет. Тады ж я пазнаёмілася з яго жонкай Ірынай Міхайлаўнай. Яны былі маладыя, любілі адзін аднаго… Вельмі прыгожыя людзі. А яшчэ мне запомнілася бескампраміснасць Быкава, упэўненасць у сваёй праўдзе. А вакол жа панавала атмасфера савецкага беспрасвецця і канфармізму. На мяне зрабіла вялікае ўражанне, з якою годнасцю ён паводзіў сябе. І потым цягам усяго жыцця ён трымаўся гэтай пазіцыі.



На Нобелеўскай цырымоніі. Майкл Шольман, Святлана Алексіевіч, прафесар Свантэ Ліндквіст.

У параўнанні з Быкавым Адамовіч – больш элітарны пісьменнік. Здаецца, Купрын дзяліў пісьменнікаў на дзве катэгорыі: ёсць больш разумныя за свой талент і больш таленавітыя за свой розум. Вось і Быкаў з Адамовічам да розных тыпажоў адносяцца.

**– Хоць для абодвух асноўнай тэмай была вайна.**

– Але і вайну па-рознаму можна паказваць. Разумееце, вайна ўсё ж не адразу запаўзае ў душу чалавеку, ён вельмі доўга думае, што яна яго не закране, што ён зможа адседзецца на ўзбоччы. Іван Чыгрынаў добра паказаў гэта: спачатку многія беларусы нават прынялі нямецкую акупацыю, бо яна вярнула ім зямлю. Я ж у вёсцы расла і памятаю, як сяляне ўспаміналі той час: нарэшце з'явілася мяса на стале. Гэта быў хітры ход немцаў – даць усім зямлю і абкласці пасільным падаткам. У Чыгрынава ў адным з першых раманаў пра гэта расказана вельмі цікава. Хоць відаць, што цэнзура там папрацавала... Гэта потым немцы сталі знішчаць яўрэяў, пачаўся партызанскі рух. Думаю, што згуба яўрэйскай часткі насельніцтва была катастрофай для Беларусі. Памятаю, вяскоўцы расказвалі, як усіх яўрэяў – настаўніка, лекара і краўца – немцы за адзін дзень забілі. І не было каму ні шыць, ні лячыць, ні вучыць. Так што пра Халакост я ўпершыню даведалася ад беларускіх сялян. Беларусы, дарэчы, не былі так агрэсіўна настроены да яўрэяў, як, напрыклад, украінцы ці літоўцы. Калі ў Мінск прыязджала літоўская пісьменніца Рута Ванагайтэ з прэзентацыяй сваёй кнігі, мяне вельмі ўразіла тое, што яна расказала. Не ведаю, гэта міф ці праўда, але нібыта сам Гітлер быў уражаны, што ў Беларусі не было антысемцкіх беларускіх батальёнаў.

### «Проста кінуць у народ заклік «дайце грошы на Курапаты» недастаткова»

**– Як вы думаеце, чаму не ўдалося зрабіць агульнанародным збор грошай на помнік у Курапатах? Так, ідэя сыходзіла ад рэдактара прэзідэнцкай газеты. Але гэта ўсё ж святая ідэя...**

– Калі мне патэлефанавалі з Адміністрацыі прэзідэнта па справе Курапатаў, я сказала: паставіць помнік – гэта не значыць прывезці і ўсталяваць камень. Трэба зацікавіць грамадства гэтай тэмай. Трэба, каб беларускі прэзідэнт, як калісьці нямецкі прэзідэнт Вайцзэкер, сказаў у сваёй прамове, што значылі для беларускага народа гады сталінскага тэрору. У беларускім грамадстве павінна быць праведзена велізарная духоўная праца. Тым больш цяпер, калі ў Расіі паказваюць Сталіна "вялікім менеджарам". Трэба, каб беларуская эліта сур'ёзна асэнсавала гэтую тэму. А проста кінуць у народ заклік "дайце грошы на Курапаты" недастаткова. Ды і Павел Якубовіч – не тая фігура, якая павінна гэтым займацца. Хоць і Зянон Пазняк становіцца дзіўнай фігурай. Ён жыве далёка за мяжой і думае, што вернецца ў Беларусь на белым кані? Тады ён проста перастаў разумець свой народ. Мне здаецца, Пазняк вельмі аддаліўся ад нашай рэальнасці.

**– Але адкрыццё тых жа Курапатаў – заслуга найперш Пазняка. І яшчэ. Вы кажаце: прэзідэнт павінен змяніць сваё стаўленне да Курапатаў. Але пакуль што міністр унутраных спраў з'яўляецца на парадах у форме НКВД, а ў школьныя праграмы закладзена: мінімізаваць тэму рэпрэсій 1930-х гадоў.**

– І пасля гэтага вы хочаце, каб людзі пералічвалі грошы на мемарыял? Між іншым, і ў цяперашняй Расіі гэткая ж самая палітыка. Сталінскі тэрор і там не асэнсаваны, не прадыскутаваны. А падобныя гістарычныя трагедыі вымагаюць сур'ёзнага і ўдумлівага асэнсавання. А калі прэзідэнт Беларусі гаворыць, што нам няма чаго ў тым часе саромецца... Мой бацька вучыўся ў Камуністычным інстытуце журналістаў і расказваў, як зніклі выкладчыкі і самыя здольныя студэнты. Калі б не вайна, і ён пайшоў бы па этапе, паколькі быў чалавекам думаючым. Дарэчы, вайна закрыла тэму ГУЛАГа – як унутры краіны, так і ў замежжы.

**– У адным з нядаўніх нумароў часопіса "Дзеяслоў" апублікавана ваша даўняя гутарка з рускамоўным паэтам Веніямінам Блажэнным, які ўсё жыццё пражыў у Мінску. Скажыце, а як адбівалася на вашай пісьменніцкай кар'еры тая акалічнасць, што вы, жывучы ў Беларусі, заўсёды пісалі толькі па-руску?**

– Тую гутарку адшукаў Сяргей Шапран, дзякуй яму. Памятаю, тады руская паэтка Тацяна Бек перадала для Блажэннага грошы, і мяне хтосьці з Масквы папрасіў зрабіць з ім інтэрв'ю. Я прыйшла да паэта дахаты – гэта было вартае жалю відовішча. Старасць і безадпаможнасць, з аднаго боку, і бліскучы палёт думкі – з другога. Блажэнны ўразіў мяне тым, што зусім іначай, чым мы ўсе, глядзеў на свет. У ім савецкасці не было ні грама. Вялікі дух, паланёны ў тленным целе...

Другі раз у жыцці падобнае ўражанне на мяне зрабіла паэтка Вольга Седакова. Што да мовы, то мая рускамоўнасць выклікала пэўнае супрацьдзеянне ў Саюзе пісьменнікаў. Але ўжо тады, пасля першай кнігі "У вайны не жаночы твар", я ведала, што буду займацца даследаваннем і апісаннем Утопіі. А яна гаварыла на рускай мове. Калі я паступала ў СП, мяне па выніках таемнага галасавання не прынялі – не хапіла аднаго голасу. Прынялі насуперак правілам – на Радзе. Але я не з тых людзей, якія любяць рабіць з сябе ахвяру.

### «З Беларусі стагоддзямі выцягвалі інтэлектуальныя сокі Польшча і Расія»

**– У вашым "Інтэлектуальным клубе" выступаюць выключна замежныя дзеячы культуры (згадаем ужо Вольга Седакова, Аляксандр Сакураў). Вы ў Беларусі не бачыце інтэлектуалаў з цікавымі крэатыўнымі ідэямі?**

– Назавіце мне ў Беларусі чалавека ўзроўню Сакурава ці тае ж Руты Ванагайтэ, якая асмелілася сказаць свайму народу, што ён быў у пэўных абставінах катам. Быў бы жывы Алесь Адамовіч, я яго першым запрасіла б выступіць у клубе. Але яго няма. На жаль, пераважная большасць беларускіх інтэлектуалаў няздольная да шырокага мыслення, не могуць выйсці з нацыянальнага кантэксту ў кантэкст агульначалавечы. Чытаючы каментары на выступленні маіх гасцей, я лішні раз пераконваюся ў гэтым. Гэта наша агульная праблема. Сталін вынішчыў усю беларускую эліту – пагартайце даведнікі Леаніда Маракова. А потым вайна пракацілася. Народ надарваўся, маленькі народ Беларусі... Тым больш з нас стагоддзямі выцягвалі інтэлектуальныя сокі Польшча і Расія. Паўтаруся: адсутнасць эліты – праблема не мая, гэта агульнанародная бяда.

**– Тая ж Седакова для вас – ліхтарык у цемры. А ці знаходзіце вы падобныя ліхтарыкі ў літаратуры беларускай, у тым жа часопісе "Дзеяслоў", які заснаваў і рэдагуе адзін з вашых перакладчыкаў і таленавіты празаік Барыс Пятровіч?**

– Некалькі сапраўды цікавых фігур усё ж ёсць... Думаю, мы зробім з імі сустрэчу ў "Інтэлектуальным клубе", прадыскутуем тэму ўлады і апазіцыі. А ўвогуле, у нас нямала людзей, якія спрабуюць нешта зрабіць, наколькі хапае сіл і таленту.

### «З гледзішча мастацтва мне і Сталін цікавы, бо кат і ахвяра аднолькава прыцягальныя»

**– Вы атрымалі шмат замежных прэмій – і да Нобелеўскай, і пасля. А ад беларускай дзяржавы не маеце ніводнай узнагароды. Якое пачуццё ў вас гэта выклікае – крыўду ці, наадварот, ціхую радасць?**

– Я проста пра гэта не думаю. Зразумейце, мяне падобныя рэчы не цікавяць. Павіншаваў прэзідэнт ці не павіншаваў, даў званне Героя ці не даў – мне гэта ўсё роўна. Сапраўдныя вялікія палітыкі не дазваляюць сабе гэткага брутальнага непрымання чужых поглядаў.

**– Аднак жа нядаўна ў адным з інтэрв'ю вы прызналіся, што пайшлі б на сустрэчу з Лукашэнкам, калі б вас належным чынам запрасілі. Вы яго ў нечым усё ж хочаце пераканаць?**

– Не пераканаць, а паназіраць. Неяк мы з Таццянай Талстой у Парыжы на рускім кніжным кірмашы абмяркоўвалі, ці ісці мне на сустрэчу з Пуціным. І прыйшлі да высновы, што трэба ісці. Я пайшла з цікавасцю. І ўбачыла маленькага чалавека са сталёвай воляй. І ўбачыла пісьменнікаў, якія "раболепно" глядзелі на прэзідэнта. Хтосьці падышоў да мяне і заўважыў: "Света, ты тут адзіны чалавек, які ўсіх разглядае з цікавасцю". Мне проста цікавая чалавечая прырода. Разумееце, з гледзішча мастацтва мне і Сталін цікавы, бо кат і ахвяра аднолькава прыцягальныя. Жорстка так думаць, але такія ўжо правілы мастацтва – не вельмі маральныя, скажам так. Вось кіруючыся гэтай цікавасцю, я і пайшла б на сустрэчу.

**– У Лукашэнкі гіпнатычны погляд. Гэта шмат хто заўважаў.**

– Я назвала б гэта гіпнатызмам улады. А забяры ў яго ўладу... Думаю, што і Лукашэнка за столькі гадоў стаміўся, маладая энергетыка яго пакідае, ён жа таксама чалавек, біялагічная істота. Хоць і займаецца хакеем.

### «У нас чыноўнікі заклапочаны адным – з якой нагі ўстаў Лукашэнка»

**– А якім, на вашу думку, павінен быць прэзідэнт Беларусі?**

– Вядома ж, я не думаю так ідэалістычна, як старажытнагрэчаскі філосаф Платон, які лічыў, што адукаваны цар не стане злоўжываць палітычнай дзейнасцю на сваю карысць. Але – адукаванасць і культурны ўзровень патрэбны найперш. Я неяк чытала апублікаваную перапіску Барака Абамы з нейкай жанчынай, дзе яны з разуменнем справы разважалі пра літаратуру. І, ведаеце, мне было цікава. Калі Абама сыходзіў у адпачынак, то публікаваўся спіс кніг, якія ён меркаваў прачытаць. Мне хацелася б, каб у Беларусі быў такі прэзідэнт. У нас жа функцыя кіраўніка дзяржавы зведзена да вытворчасці, да самых мінімальных чалавечых патрэб. Пра духоўнае нават гаворка не ідзе. А Беларусі ў жыццёвым нашым руху – ад сацыялізму невядома куды – патрэбны лідар са светапоглядам Сахарава і маральнымі якасцямі Васіля Быкава. Неабходна, каб лідар узнімаў культурны ўзровень сваіх падначаленых, а не пагражаў прылюдна закаваць у кайданкі. Шкада, што ва ўладзе рэдка з'яўляюцца разумныя людзі. Вельмі цікавы цяперашні амбасадар Беларусі ў Кітаі – Кірыл Руды, я чытала яго кнігі. Можна згадаць яшчэ Паўла Латушку, Уладзіміра Макея... Але часцей за ўсё калідоры ўлады – гэта сумнае відовішча. У нас чыноўнікі заклапочаны адным – з якой нагі ўстаў Лукашэнка, што з тае ці іншае нагоды сказаў.

*(Заканчэнне на 4-й стар.)*

АСОБА

## Святлана АЛЕКСІЕВІЧ, лаўрэат Нобелеўскай прэміі:

# «Я спадзяюся, што мы ўвойдзем у новую эпоху без крыві…»

*(Заканчэнне. Пачатак на 3-й стар.)*

**– Вы неяк напісалі кіраўніку Беларусі ліст – ён публікаваўся ў “Народнай Волі”. Ці атрымалі адказ?**

– Не. Гэта было ў 2010 годзе, падчас прэзідэнцкіх выбараў, калі пасля Плошчы было затрымана каля 700 чалавек. Тады ўсё грамадства ўзрушылася. Што да майго ліста, то і Гётэ, і Пушкін таксама пісалі імператарам. І манархі ўсё ж адказвалі паэтам, гэта былі іншага выхавання людзі. Мне вельмі спадабаўся адказ прынца Уэльскага Чарльза. Калі ён аднойчы быў з візітам у Аўстраліі, то нейкі псіхапат двойчы стрэліў у яго. Ахоўнік спрабаваў пакласці прынца на зямлю, закрываючы ад кулі, а Чарльз толькі паправіў манжэт кашулі. Патроны, праўда, аказаліся халастымі. У аналагічнай сітуацыі прэзідэнт Рэйган схаваўся за ахоўніка. Калі пра гэта паведамілі Чарльзу, ён адказаў: “Мой род тысячу гадоў паляпшаў сваю чалавечую пароду”. Так што культурныя назапашванні шмат значаць. А вы ўспомніце, на якім узроўні выкладалі нам тую ж літаратуру ў школах – толькі абмен інфармацыяй, прычым самай прымітыўнай.

**– А вы пасля школы адразу паступілі на журфак БДУ?**

– Не адразу, неабходна было мець два гады стажу. Я адпрацавала год у школе – там не хапала настаўніка гісторыі, а потым у раённай газеце ў Нароўлі. Бедны рэдактар, як ён толькі інфаркт са мной не атрымаў!

### «А што нёс на мяне Міхалкоў, а што Кісялёў! Яны як з ланцуга сарваліся»

**– На вашай малой радзіме, у вёсцы Капаткевічы Петрыкаўскага раёна, механізатары мясцовага калгаса хацелі назваць вашым імем трактар. Ім, відаць, не дазволілі гэта зрабіць, вы не цікавіліся?**

– Не цікавілася, але з цікавасцю прачытала пра намер капаткевіцкіх трактарыстаў у адным з “Падарожжаў” Зміцера Бартосіка. Запомнілася, наколькі трактарысты глядзеліся цікавей, чым некаторыя настаўнікі. Тыя проста неслі лухту, жах нейкі… Як прапаганда змяняе людзей!.. Я ж іх усіх ведаю. Асабліва вызначылася настаўніца літаратуры, сказаўшы: “Што такое індывідуальны герой, Святлана ў школе разумела, а панятак “масавы герой” да яе ніяк не даходзіў”.

**– Паэт Ігар Шклярэўскі неяк прызнаўся, што падараваў свой савецкі ордэн сябру – на дзень народзінаў. А вы свой ордэн “Знак Пашаны” захоўваеце?**

– Недзе ляжыць. Калі пераязджала на новую кватэру, я яго знайшла. Помню, мне яго ўручаў сакратар ЦК КПБ Аляксандр Кузьмін.

**– Рыхтуючыся да нашай сустрэчы, я пагартаў сайты расійскіх СМІ і быў уражаны, як там вас характарызуюць. “Литературная газета” не цырымоніцца: “Алексиевич – предатель и классический антисоветчик”; “Литературную Россию” і цытаваць няёмка… Адкуль такое стаўленне калег па пяры?**

– Па-першае, з-за банальнай зайздрасці. Па-другое, з-за таго, што прэмію атрымаў пісьменнік з Беларусі. Гэта іх дужа зачапіла. А што нёс на мяне Міхалкоў, а што Кісялёў! Яны як з ланцуга сарваліся. Хоць некаторыя да майго лаўрэацтва добра паставіліся – напрыклад, Уладзімір Вайновіч. Але ў агульнай масе насамрэч – проста жах!

**– Пасля такіх публікацый і выказванняў вы не баіцеся ездзіць па Расіі без целаахоўніка?**

– Ведаеце, я неяк выступала ў маскоўскім “Гоголь-центре” ў Кірыла Сярэбранікава (перад тым, як яго арыштавалі). Зала была перапоўнена – чалавек 800 прыйшло. Прымалі выдатна. На сустрэчу з’явіліся людзі, якія даўно не чулі нармальнага чалавечага слова. У сённяшняй Расіі далёка не кожны можа нешта адкрыта сказаць. Людміла Уліцкая мне расказвала: выходзіць яна ў краму па хлеб, а перад ёй – расцяжка “Вось яны – здраднікі радзімы!”. І – партрэты яе і Андрэя Макарэвіча. Да нацыянал-здраднікаў там залічаны таксама Барыс Акунін і Лія Ахеджакава. І гэта не тое што Пуцін загадаў. Падобныя ініцыятывы там і знізу ідуць. Скажам, помнікі Сталіну з’яўляюцца ў розных гарадах. На ўласным агародзе таксама хтосьці ставіць, але і гарадскія ўлады не адстаюць.

**– Некаторыя расійскія дзеячы культуры (у тым ліку згаданы рэжысёр Аляксандр Сакураў) дапускаюць усталяванне ў Расіі дыктатуры. Маўляў, народ патрабуе цвёрдага кулака. А на ваш погляд: ці магчыма сталінізацыя Расійскай Фэдэрацыі?**

– Думаю, на нейкі момант – так. Мілітарызацыя і сталінізацыя. Ну немагчыма ж сёння глядзець іхняе тэлебачанне, слухаць некаторых іхніх пісьменнікаў, чытаць іхнія газеты. Таму нармальныя людзі з’язджаюць. Неяк мы сустрэліся ў Тэль-Авіве з былым рэдактарам газеты “Коммерсантъ” Якаўлевым. Я запыталася: “Вам, напэўна, пасля Расіі складана жыць у такой маленькай краіне, без звыклага атачэння?” А ён мне адказаў, што ў Тэль-Авіве ён сустракае ўсіх сваіх сяброў па Маскве... Вельмі шмат людзей пакінулі пуцінскую Расію. Прайшлі тыя часы, калі мы спадзяваліся, што Расія дапаможа нам усталяваць дэмакратычны лад. Сёння яна зусім іншая.

### «Думаю, на наша пакаленне барыкад яшчэ хопіць»

**– Вы прыгадалі сваё выступленне ў маскоўскім “Гоголь-центре”. Думаю, не меншыя залы збіраюцца на вас і ў другіх краінах. Але вось вы вяртаецеся ў Беларусь, і ў Гомелі адбываецца сустрэча з вамі на прыватнай сядзібе, ледзь не падпольна. Гэта вас не бянтэжыць?**

– А што зробіш, калі мясцовыя ўлады не дазволілі сустрэчу ў абласной бібліятэцы? Яны ж бачаць стаўленне да мяне Лукашэнкі і – баяцца. Калі я была ў Капаткевічах, то не збіралася нікуды заходзіць. Проста хацела пабыць на магіле сястры, праехаць па вёсцы, каля школы… Але настаўнікі захацелі сустрэцца ў школе, з вялікімі намаганнямі атрымалі дазвол, які ім далі ў самы апошні момант. Нічога не паробіш – яны ўсе там залежныя. Дзе вы знойдзеце працу ў Капаткевічах, калі вас выкінуць, як Наталлю Ілляніч, са школы? Як вы будзеце выжываць? Я не згодна з некаторымі апазіцыянерамі, якія гавораць: калі мы прыйдзем да ўлады, то правядзём люстрацыю і пакараем настаўнікаў за фальсіфікацыю выбараў і г.д. Але тыя ж настаўнікі – проста няшчасныя рабы гэтай дзяржавы.

**– Самым непажаданым месцам для мастака вы лічыце барыкады. Але па волі лёсу вы – там: часта выступаеце з рознымі надзённымі заявамі, не цураецеся публічнага жыцця. Ці, дасягнуўшы поспеху, вы гатовы пакінуць тыя, умоўна кажучы, барыкады?**

– Пакідаць барыкады я не збіраюся, хоць гэта не толькі непажаданае, а і небяспечнае месца для мастака – псуюцца зрок і слых. Ты бачыш не чалавека, а мішэнь, думаючы: з кім ён? Барыкады не дазваляюць разгледзець чалавека ў ворагу. А пісьменнік павінен бачыць усё. Так, я на барыкадах, такі ўжо ў мяне тэмперамент, і такі час нам дастаўся. Думаю, на наша пакаленне барыкад яшчэ хопіць. Шкада, што часам усё жыццё ідзе на змаганне. Адасобіцца ад яго немагчыма, ты ўсё роўна застаешся ў гэтым часе. Да мяне неяк заходзіў мадэльер Саша Варламаў, які вярнуўся з турмы. Сядзім, гаворым, і раптам ён кажа: “Святлана, у мяне такое адчуванне, што мы хутка будзем адсюль уцякаць”. Так што розныя настроі ў людзей, небяспека адчуваецца, але я спадзяюся, што мы ўвойдзем у новую эпоху без крыві.

**Алена МАЛОЧКА,**
**Міхась СКОБЛА.**

ЗДАРЭННЕ

# Нарадзіўся ў сарочцы...




**Рэдкае здарэнне адбылося ў мінулую суботу пад Баранавічамі. Машына, якой кіраваў 22-гадовы мясцовы жыхар, вылецела з трасы, урэзалася ў бар’ерную агароджу моста, перакулілася і завісла на парэнчах. Хлопец атрымаў раненні, але, дзякуй Богу, застаўся жывы. Як кажуць, нарадзіўся ў сарочцы.**

СТОП-КАДР




**Каб патрапіць у Нацыянальны мастацкі музей у так званую “Ноч музеяў” мінчанам давялося выстаяць за таннымі квіткамі немалую чаргу.**

З НАГОДЫ

## Могілкі растуць хутчэй, чым гарады

Калі вы пабываеце на сталічных могілках альбо ў іншых гарадах, то заўважыце, як шчыльна “ліпнуць” адна да адной магілкі, вольных месцаў практычна няма. Ды і не танная гэта справа – памерці. Паверце, нават для таго, каб падзахаваць некага, трэба заплаціць досыць вялікія грошы.

Але ў мяне ўзнікае пытанне: а што будзе праз 10 гадоў, калі ўжо зараз на могілках праблемы з месцамі? Хто-небудзь заклапочаны гэтым? Мяркую, жывым трэба больш думаць пра мёртвых…

**Юрый ЯСІНСКІ,**
**пенсіянер.**

*Мінск.*

КОМПЕТЕНТНОЕ МНЕНИЕ

# Кто и как обеспечивает больницы медтехникой?

*В конце марта посетил выставку «Здравоохранение Беларуси – 2018». Поскольку последние десять лет своей трудовой биографии я занимался монтажом и наладкой медицинского оборудования, захотелось узнать новости. Решил поделиться своими впечатлениями.*

Надо отдать должное, «сервировка» выставки была выполнена на хорошем уровне, на стендах представлено много современного медицинского оборудования как зарубежных, так и отечественных производителей.

Лучшие образцы отечественного оборудования, а также громко разрекламированный компьютерный томограф – продукты «отверточной» сборки завезенных из-за рубежа в Беларусь полных наборов комплектующих изделий. От зарубежных оригиналов их отличает лишь фирменный знак белорусского производителя (как правило, совместное с зарубежным партнером предприятие). Лет тридцать назад такому «техническому творчеству» можно было бы порадоваться, а нынче испытываешь чувство горечи: очевидно, что в разработке и производстве новой техники мы отстали надолго.

Помимо уникального в практической медицине применяется много не очень сложного, но не менее необходимого оборудования. Его производством с разным успехом занимаются знаменитые прежде приборостроительные заводы и частные предприятия Беларуси. На выставке бросается в глаза то, что они в большинстве случаев выпускают одни и те же изделия. Сразу шесть изготовителей предлагают бактерицидные облучатели (всем известные «синие» лампы), пять – рециркуляторы (специальные вентиляторы) для обеззараживания воздуха. Несколько предприятий предлагают практически одинаковые больничные койки и медицинскую мебель. Кому-то может показаться, что это конкуренция. На самом деле это неразумная трата денег. Дело в том, что эти производители выпускают продукцию малыми партиями и завышают цену на изделия: производственная цепочка одна для 10 единиц продукции и для 1000, цена изделия в большой партии существенно ниже. В Беларуси десятки предприятий, любое из которых может в короткий срок обеспечить все больницы теми же кроватями. И при необходимости не надо будет закупать большую партию этих «произведений» технической мысли, например, аж в Челябинской губернии России.

Подчиненное Минздраву минское предприятие «Медтехноцентр» взялось шить медицинскую одежду: халаты и другие «распашонки». Ничего необычного вроде нанотехнологий для производства этих изделий не требуется – любое швейное производство справилось бы с этой работой в масштабах всего государства, и стоимость продукции была бы существенно ниже. Это же предприятие взялось выпускать электронные реанимационно-хирургические мониторы, не имея опыта такой работы. Практически идентичные изделия предлагает «Интеграл». Разница между ними заметна лишь специалистам: прибор «Медтехноцентра» снабжен более мощной батареей для автономной работы, зато «интеграловский» снабжен куда более грамотным рекламным листком. Уровень знаний изготовителей обязательно проявит себя в процессе эксплуатации приборов потребителями.

Между тем основная задача «Медтехноцентра» – обеспечение работоспособности и ремонт оборудования в медучреждениях. До конца 1990-х годов это было головное предприятие Минздрава, которое обеспечивало монтаж, техническое обслуживание и ремонт медтехники в учреждениях здравоохранения по всей Беларуси. О том, чтобы сберечь эту структуру и адаптировать ее к новым экономическим условиям, подумать было некому, «Медтехноцентр» развалили на самостоятельные региональные предприятия, которые пошли каждое своим путем. В то же время вокруг Минздрава развелось множество фирм и фирмочек, получивших право поставки медицинского оборудования. При этом качество изделий многих поставщиков интересует в последнюю очередь – лишь бы как-нибудь работали. Далеко не все такие поставщики брали на себя даже гарантийные обязательства по обслуживанию этого оборудования; а по истечении срока гарантии у потребителей начинались серьезные проблемы практически со всем вновь приобретенным оборудованием.

На мой взгляд, причина такого положения вещей кроется в структуре Минздрава. В нем не только нет службы, которая осуществляла бы целенаправленную техническую политику в обеспечении лечебных учреждений всей Беларуси огромным количеством разнообразного высококачественного современного медицинского оборудования и контролировала бы надлежащее его обслуживание. Нет и компетентных технических специалистов, способных решать такие вопросы. Между тем стоимость медоборудования в масштабах государства – десятки миллиардов рублей.

Такую задачу должно решать структурное подразделение министерства, в «старорежимные» (советские) времена оно называлось бы техническим управлением. Оно обеспечило бы рациональный подход и к приобретению медтехники, и к ее эксплуатации. А также смогло бы разумно «озадачить» существующие производства, с инженерно-технической точки зрения анализировать некоторые навязываемые нашей медицине сомнительные новации. Мне довелось работать на монтаже так называемых «чистых комнат», в которых, согласно новым веяниям, должны размещаться операционные блоки. По замыслу новаторов, стены этих комнат изготавливаются из материалов, препятствующих развитию бактерий и обеспечивающих высокие гигиенические требования к чистоте таких помещений. В эти комнаты подается предварительно очищенный в специальных вентиляционных системах воздух. В СССР такие помещения создавались на предприятиях электронной промышленности; в том числе на «Интеграле» были целые цеха, где в одном литре воздуха допускалось наличие не более одной-двух пылинок размером в 10 микрон. Стоили эти помещения миллионы советских рублей. Судя по всему, в Минздраве РБ об этом никто не знал, и к созданию таких помещений привлекли через частные фирмы «специалистов» из России и доморощенных «спецов». Кавычки я ставлю неслучайно: почти никто из этих людей ничего путного на вопросы, неизбежно возникшие в процессе работы, ответить не мог. По моему твердому убеждению, эта «новинка» не только не оправдывает баснословные затраты на ее реализацию, но и в принципе не способна решать поставленную задачу в ходе реальной эксплуатации. Из-за того, что технически грамотных специалистов в Минздраве попросту нет, контролировать ситуацию некому: врачи в технике не разбираются, финансисты министерства цены на рынке медоборудования не отслеживают, ответственные руководители принимают решения о закупке оборудования «по понятиям». В итоге работает принцип распределенной безответственности – спросить не с кого. В выигрыше оказываются только спекулянты.

Для меня не было неожиданностью сообщение о том, что смонтированные системы очистки воздуха были в употреблении за рубежом, где они уже отработали гарантированный срок эксплуатации, но в Беларусь были поставлены как новые. Поди теперь разберись, кто откровенно жульничал, а кто искренне заблуждался.

Сомнительные новации отнимают у того же «Медтехноцентра» много сил и средств. В итоге предприятие вынуждено неадекватно завышать стоимость своих работ. Вот конкретный пример. Чтобы смонтировать упомянутый ранее бактерицидный облучатель, нужно забить в стену два дюбеля и подсоединить к облучателю четыре провода. В реальности у одного монтажника это занимает в самом сложном случае полчаса. Согласно нормам «Медтехноцентра», трудоемкость этой операции составляет 13 (тринадцать) часов и монтаж обходится заказчику в 2,5 раза дороже, чем стоимость не такого уж и дешевого облучателя. Но даже при таких расценках предприятие не вылезает из долгов: аппарат управления функционирует по принципу «на одного раба два прораба». А еще много средств уходит на новые идеи директоров, которых при мне (за десять лет) сменилось 6 или 7 – всех и не упомнишь. В памяти осталось только то, что никто из них никогда ранее к медицинской технике отношения не имел и лишь один из них был инженером.

Медицинские учреждения неоднократно пытались от такого «ненавязчивого сервиса» избавиться, но по некоторым видам работ «Медтехноцентр» имеет исключительное право на их выполнение, и заказчики вынуждены смириться с таким вот «правом первой ночи».

Кто-то упрекнет меня в предвзятом отношении к Минздраву и будет прав. За годы жизни у меня было много встреч с медициной, и мне есть о чем с благодарностью вспомнить. Есть и то, что хотелось бы забыть, да не получается, и вот почему.

В больницах не хватает действительно необходимого оборудования, а то, что есть, зачастую используется безответственно. Приведу наглядный пример.

Пациентке, поступившей в больницу после сердечного приступа, произвели стентирование – популярную нынче процедуру для восстановления нормальной работы сердца. После операции пациентку на раздолбанной каталке – носилках, установленных на колеса на нерегулируемой высоте около метра, привезли в палату, чтобы уложить в кровать. Матрас кровати располагается на уровне шестьдесят сантиметров от пола и также не регулируется. Для двух дородных санитарок процедура перекладывания пациентки с каталки на кровать – привычное дело. Они приподнимают пациентку, ухватившись за простыню, на которой пациентка лежит на каталке, и бросают ее на кровать. Матрас пружинит и подбрасывает пациентку… Вскоре состояние пациентки резко ухудшилось. Доктора в недоумении: процедура стентирования прошла успешно, осложнений быть не должно. Для уточнения диагноза потребовалась процедура компьютерной томографии. Дело было в конце августа, в пятницу, рабочий день закончился, и до понедельника у компьютерного томографа выходной – надо ждать. Один доктор взял ответственность на себя, и по его настоянию той же ночью пациентке была сделана срочная операция, после которой стало ясно, что у пациентки разошелся операционный шов и началось обширное внутреннее кровоизлияние. Времени до понедельника у нее не было…

Через пять лет я заглянул в ту больницу. В столичной клинике, в которой не одна сотня койко-мест, появилось несколько каталок с регулируемой высотой. Их передали в самые тяжелые отделения, в остальных отделениях таких каталок нет. А компьютерный томограф по-прежнему по выходным дням отдыхает.

Я не стал бы писать эти заметки, да попалось на глаза интервью министра В.Малашко, данное им на открытии выставки. Он пообещал повышение качества медицинских услуг на базе новых стандартов лечения и расширения службы врачей общей практики, апробированной в сельских больницах. Министр не забыл сказать, что медицинская техника стоит дорого. Вот и я о том же: оборудование надо использовать со знанием дела…

**Михаил ЗАПОЛЬСКИЙ,**
**инженер.**

СВЕТСКАЯ ХРОНИКА

# Свадьба года



*19 мая принц Гарри и Меган Маркл стали мужем и женой. Свадьбу внука Елизаветы II и бывшей актрисы ждали не только британские подданные, но и, без сомнения, весь мир.*



Церемония проходила в Виндзоре, в церкви Святого Георга, которая вместила около шестисот гостей. Они начали собираться еще за несколько часов до бракосочетания. Присутствовали многие знаменитости, в том числе Амаль и Джордж Клуни, Виктория и Дэвид Бэкхем, Опра Уинфри, Серена Уильямс, Алексис Оганян, Элтон Джон с супругом, Джеймс Кордон и Джеймс Блант. Пришли и бывшие девушки принца Челси Дэйви и Крессида Бонас. Кроме того, на бракосочетании были замечены и коллеги экс-актрисы по сериалу «Форс-мажоры».

На церемонию счастливая невеста прибыла отдельно от жениха. Принц Гарри и принц Уильям пришли в церковь, которая располагается на территории Виндзорского замка, пешком. На Меган были минималистичное стильное платье без какого-либо декора со слегка приоткрытыми плечами от Givenchy, алмазная тиара королевы Мэри (так называемую «Филигранную тиару» одолжила невесте бабушка жениха: в свое время ее мать заказала это украшение у британского ювелирного Дома Garrard), которую до начала церемонии прикрывала фата. За несколько дней до бракосочетания выяснилось, что отец Меган Томас не будет присутствовать на свадьбе из-за недавно перенесенного инфаркта. Именно поэтому к алтарю невесту вел принц Чарльз, которого невеста попросила стать ее посаженным отцом. Любопытно, что, в отличие от Кейт Миддлтон, которая не надевала обручальное кольцо принцу Уильяму (а лишь получила свое от супруга), Меган Маркл сделала это – окольцевала принца Гарри.

После свадьбы молодожены получили во владение особняк York Cottage, расположенный неподалеку от Лондона. Некогда поместье принадлежало бабушке и дедушке монаршей особы – королю Георгу V и его супруге Мэри. Меган и Гарри всячески показывают свою близость к народу. Будущие супруги попросили гостей не думать над презентами для них, а вместо этого сделать пожертвования в благотворительный фонд.

ЧТО ТАМ, В УКРАИНЕ?

# Бег по кругу

Официально избирательная президентская кампания в Украине еще не стартовала, но в реальности она набрала лихие обороты. Явных лидеров пока нет, кандидаты идут практически ноздря в ноздрю, достаточно плотной группой.

Одной фразой эту кампанию можно охарактеризовать так – один на всех и все на одного. На сегодняшний день, если даже вдруг случится чудо и Петр Порошенко случайно попадет во второй тур, то там он проигрывает практически всем конкурентам, включая певца Святослава Вакарчука, комика Владимира Зеленского, а также кандидатов, вышедших из недр «Оппозиционного блока»: Юрия Бойко и Вадима Рабиновича.

Почувствовав электоральную слабость президента, союзники по парламентской коалиции стараются «укусить» его больнее всех. Министр МВД Арсен Аваков намерен отомстить Петру Алексеевичу за обвал рейтинга «Народного Фронта» и разрушенные надежды на долгую счастливую политическую жизнь. Возбуждено уголовное дело по факту вмешательства в деятельность лидера «фронтовиков» Арсения Яценюка, которое привело к отставке того с должности премьер-министра. По просочившимся в прессу документам и заявлениям некоторых фигурантов, за этими событиями стояли люди из окружения президента.

В Верховной Раде депутаты готовятся отозвать норму, разрешающую занимать должность генерального прокурора лицу без юридического образования, тем самым нанося удар по куму президента Юрию Луценко. Придется Петру Алексеевичу торговаться на чужих условиях.

Не отстает от них и формальный лидер президентской кампании Юлия Тимошенко, которая решила с издевочкой потроллить Порошенко в День кондитера, предложив ему, как неудачнику, в очередной раз сменить профессию.

Согласно опубликованным результатам апрельского опроса КМИС, Юлия Тимошенко имеет небольшой отрыв в пару процентов от основной группы кандидатов. Публикация результатов чересчур перевозбудила некоторых ее политтехнологов, которые начали рассказывать, что от Петра Алексеевича к Юлии Владимировне уже якобы побежали его соратники. Не совсем, правда, понятно кто побежал, когда побежал и, главное, зачем побежал. Бежать-то пока некуда.

На самом деле, если проанализировать данные опросов за последний год, то, как и Петр Алексеевич, Юлия Владимировна имеет стабильный тренд на снижение своей популярности. Не настолько стремительно обвальный, как у президента Украины, но уверенно плавно снижающийся. Тимошенко, после сокрушительного поражения в 2014 году, фактически просидела все время в «засаде». Не делала резких движений и заявлений, что позволяет ей пока удержаться в лидерах общественного мнения. Только разве это лидерство? В сентябре 2017 года ее рейтинг составлял **13,5%**, в феврале 2018 года – **9,8%**, а в апреле 2018-го – уже **8%**.

Это фиаско. Для того чтобы победить, ей нужно очень-очень постараться, а каких-либо ярких идей она сгенерировать пока не может. На слащавых роликах и пустопорожних выступлениях, молчании по существующим острым насущным вопросам и троллинге «умирающего льва» победную кампанию не выстроишь. Нужен реальный прорыв, а его нет.

Из нее лепят образ этакой глыбы посреди пустыни. Белоснежка и гномы. Но на самом деле она такой же политический карлик, как и остальные. И вот почему. На сегодняшний день у Юлии Владимировны антирейтинг просто зашкаливает. Категорически за нее не будут голосовать **60,9%** избирателей. Конечно, до Петра Алексеевича с его минус **74,3%** ей еще далеко. Но этого негатива **Тимошенко** с лихвой хватает, чтобы **проиграть** во втором туре **Анатолию Гриценко**, **Владимиру Зеленскому** и **Святославу Вакарчуку**.

Как я уже писал ранее, запрос украинского народа на новые имена в политике огромен. Общество хочет перемен в стране. Оно устало от постоянного наглого вранья и коррупции. Нынешние политические элиты не способны на реальные реформы. На это есть разные причины. Основные – коррумпированность, непрофессионализм, отсутствие воли.

В Украине функционирует своеобразное ЗАО (закрытое акционерное общество). Держателями его виртуальных акций являются ведущие политические игроки. Кто-то растет и получает большее влияние, кто-то падает и теряет его, как Виктор Янукович, например. В той среде царит лицемерие, цинизм, жадность до власти и денег, крысятничество и подставы. Весьма специфическая среда. И Юлия Владимировна здесь не исключение. Она, по моему мнению, плоть от плоти существующей в Украине коррумпированной системы. И ожидать от нее чуда нет смысла. Можно выбрать и в очередной раз наступить на грабли, только это может оказаться еще больнее, чем при Януковиче.

Сегодня перспективы таковы. Если формально выигрывающая во втором туре у Юлии Тимошенко тройка виртуальных кандидатов в президенты Анатолий Гриценко, Владимир Зеленский и Святослав Вакарчук договорятся и останется кто-то один из них, то оставшийся при условии технологически грамотной кампании может выиграть выборы. Только вот договорятся ли они? Скорее всего, нет. Как пел Андрей Макаревич, *«кукол дергают за нитки, на лице у них улыбки, и в процессе представленья создается впечатленье, что куклы пляшут сами по себе»*.

Несмотря на то, что Святослав Вакарчук и Владимир Зеленский о своих намерениях баллотироваться пока не объявляли, ведь не случайно их внесли в опросный лист. И если Вакарчук уже больше года на достаточно серьезном уровне обсуждается как потенциальный кандидат, то Зеленский публично в этом качестве засветился относительно недавно.

Еще несколько лет назад в узких кругах обсуждение выдвижения кандидатом в президенты Вовы воспринималась как застольная шутка, своеобразный политтехнологический стеб. Сегодня же его кандидатура имеет вполне неплохие электоральные перспективы. С одной стороны, он может снизить рост рейтинга Вакарчука. Ибо он основной, кто забирает голоса у Святослава. В случае неучастия Владимира Зеленского в кампании около 40% избирателей, готовых за него голосовать, отходят Вакарчуку. А с другой стороны, своими острыми шутками он может зачисть площадку от всех набивших оскомину кандидатов. Вопрос только: под кого?

Можно еще долго гипотетически рассуждать о том, что и как может быть. Вероятность победы в президентской кампании нового лица очень велика. Скоро узнаем, кто займет эту перспективную нишу. Только сможет ли эта особа решить накопившиеся проблемы? Это большой вопрос.

**Александр ЦЫНКЕВИЧ,**
**собственный корреспондент газеты «Народная Воля» в Украине.**

ЭВРИКА!

## В Китае презентовали электромобиль стоимостью всего 5 тысяч долларов

По дизайну новинка похожа на Bugatti Chiron. Кузов авто имеет двухцветную окраску с характерным С-образным элементом. Хотя реально размер электрокара P8 меньше оригинального Bugatti Chiron.



Электромобиль P8 может развивать максимальную скорость в 50 км/ч, чего вполне достаточно для движения по городу. Он оснащен мотором мощностью 3,35 л.с. Питание обеспечивает свинцово-кислотный аккумулятор на 72 Вт.

## В Дубае представили титановый суперкар за 2,5 миллиона евро

**На автосалоне Dubai Motor Show был представлен итало-китайский производитель Icona, показавший уникальный суперкар Vulcano Titanium. Это первый серийный автомобиль, корпус которого полностью выполнен из титана на алюминиевом шасси.**

Автомобиль создан «наподобие истребителя», как описывает его производитель, еще в 2015 году. Разработчики вдохновлялись, в частности, самолетом Lockheed SR-71 Blackbird. Цена на автомобиль составила 2,5 млн евро.



Однако только сейчас они объявили о готовности поставлять серийные образцы покупателям. Теперь Vulcano Titanium является одним из самых дорогих спорткаров мира. Машину массой около 1600 кг собирают вручную, а в его основе лежит 6,1-литровый двигатель мощностью 679 л.с.

Максимальная скорость творения Icon достигает 355 км/ч, при этом разгон до «сотни» займет 2,8 секунды. Всего в рамках мероприятия представили свыше 100 новых моделей.

С МИРУ ПО НИТКЕ

## Новое правительство Италии создает угрозы стабильности евро

*Об этом в эфире радиостанции Europe 1 заявил министр экономики Франции Брюно Ле Мэр.*

По его словам, такая угроза возникнет, если новое правительство Италии не будет соблюдать обязательства по предельно допустимым нормам госдолга и бюджетного дефицита, а также – забудет об обязательствах по оздоровлению банков.

*«Каждый в Италии должен понимать, что будущее страны в составе Европы и нигде больше. А чтобы это будущее было в Европе, нужно соблюдать правила»,* – заявил французский министр.

Напомним, ранее правые итальянских политических партий «Лига» и «Пять звезд» согласовали текст коалиционного договора. Среди прочего, они хотят добиться отмены антироссийских санкций, пересмотреть ряд соглашений с ЕС, а также выйти из зоны евро.

## Шотландия – о новом референдуме

*После решения Британией всех вопросов по брекситу Шотландия может рассмотреть вопрос о еще одном референдуме о независимости.*

Как сообщает Reuters, об этом в эфире телеканала ITV заявила первый шотланский министр Никола Стерджон.

*«Когда мы получим определенную ясность, о результатах брексита и будущих отношениях между Великобританией и ЕС, которые, надеюсь, мы получим уже осенью этого года, «я снова рассмотрю вопрос о сроках проведения референдума о независимости»,* – заявила Стерджон.

## Финляндия сократит льготы для бывших депутатов

*Спикер парламента Финляндии Паула Рисикко и главы всех фракций, кроме «Истинных финнов», решили отказаться от системы адаптационных пенсий.*

Соответствующий законопроект будет внесен на рассмотрение парламентариев в ближайшее время.

На адаптационную пенсию имеют право проработавшие не менее 7 лет депутаты парламента, впервые избранные до 2011 года. Пенсия выплачивается в том случае, если бывший депутат после завершения карьеры в парламенте не может найти работу.

Адаптационные пенсии подвергались критике из-за излишней щедрости. В прошлом году на их выплату государство потратило 1,3 миллиона евро.

Против таких трат была направлена общественная инициатива, которая в январе собрала 50 тысяч подписей, необходимых для того, чтобы такую инициативу рассмотрели в парламенте.

Предлагается заменить адаптационную пенсию пособием, которое могут получать экс-депутаты, не сумевшие найти себе новую работу. Такое пособие может выплачиваться им не более трех лет.

## ЕС может оштрафовать Латвию за плохую сортировку отходов

*Латвия не успевает выполнить новые нормативы ЕС по утилизации отходов и может быть оштрафована.*

Об этом заявила представитель Министерства охраны среды и регионального развития Лаура Янсоне.

Страны–члены ЕС до 2025 года должны перерабатывать по крайней мере 55% отходов, создаваемых домашними хозяйствами и предприятиями, а до 2030 года – уже 60%. Также до 2025 года нужно перерабатывать 65% упаковочных материалов, а до 2030 года – 70%. На определенные виды упаковки предусмотрены разные целевые показатели.

В то же время уже за два года страны ЕС должны обеспечить сортировку по крайней менее 50% своих отходов. В латвийском министерстве отмечают, что сейчас в стране сортируется менее 30% отходов.

Таким образом, уже за два года Латвия может стать нарушителем и подвергнуться финансовым наказаниям. Впрочем, минимальный штраф пока невелик – всего 392 тысячи евро.

НА ДАЛОНЯХ ВЕЧНАСЦІ

Анатоль БУТЭВІЧ

# Мора Герадота



Сёння яго не знойдзеш ні на адной карце Беларусі. Аднак гэтае міфічнае мора ад самае прадаўнасці прыпісана да беларускай зямлі. Упершыню пра яго згадвае старажытны грэчаскі вучоны Герадот, празваны бацькам гісторыі, які жыў амаль 2,5 тысячы гадоў таму. Чацвёртая з 9 ягоных кніг – «Мельпамена» – з'яўляецца самай ранняй пісьмовай крыніцай пра тэрыторыю сучаснай Беларусі, яе прыроду і насельніцтва, дагэтуль выклікае спрэчкі і дыскусіі ў асяроддзі вучоных сваім нетрадыцыйным поглядам на даўнія падзеі.

Тысячы гадоў таму значная частка Пінскага Палесся была сапраўдным водным царствам. Стрыжнем гэтага вялізнага вадаёма, які і называўся тады Морам Герадота, з'ўлялася рака Прыпяць. Яе пойма – гэта нязмерныя прасторы між Бугам і Дняпром, абмежаваныя з левага боку Пінскім Палессем, з правага – Валынскім. Сама Прыпяць, якая мела 761 кіламетр і паілася больш як 120 рэкамі, мноствам балоцістых ручаёў, лічылася адной з найбольш адметных рэк у Еўропе.

Сівыя легенды звязваюць гэты край вады і туману з Чорным морам. Яшчэ зусім нядаўна непадалёк ад Лунінца існавала знакамітае балота, якое называлася залівам Мора Герадота. Бязлюднае, бясконцае і непраходнае. І, як у сапраўдным царстве, было тут шмат таямніц, загадак і неспадзянак. Ну як, напрыклад, праверыць дакладнасць таго, што, гавораць, нават у XIX стагоддзі Грычынскае балота мела падземнае спалучэнне з Чорным морам?

Герадот меркаваў, што старажытнае славянскае племя будзіны – гэтыя першабытныя насельнікі поймы Прыпяці – жыло над велізарным морам, у якое ўпадаюць цяперашнія рэкі Гарынь, Стыр і Случ. Вядомы польскі пісьменнік і гісторык XIX стагоддзя Ю.Крашэўскі зазначаў: «Балоты, што акружаюць Пінск, мноства рэк і рачулак, якія перацінаюць край, і вясновыя іхнія разлівы, што затапляюць велізарныя прасторы, былі, верагодна, прычынай бытавання існуючага і зараз падання, што некалі Чорнае мора распасціралася да самага Пінска, але нейкі магутны князь Кіеўскі раскапаў горы і спусціў сабраныя за імі воды, з-за чаго на месцы мора засталіся адны балоты. У доказ гэтага прыводзяць якары, якія знаходзілі падчас апрацоўкі палёў…»

Так, сапраўды бязмежнымі здаваліся багністыя палескія балоты, якія складалі басейн Чорнага мора. Палешукі і праўда знаходзілі ў пойме Прыпяці не толькі якары, але і «цэлыя судны, накшталт невялікіх караблёў». Пра гэта сведчыць знаны гісторык, этнограф і археолаг А.Кіркор. Ці з Мора Герадота яны – невядома. Аднак меркаванні даследчыкаў не адмаўляюць верагоднасці існавання на Пінскай нізіне вялікага старажытнага мора даволі вялікіх памераў.

Дарэчы, 15–18 мільёнаў гадоў таму на гэтых прасторах існавала рэальнае мора. Прычынай такіх грунтоўных змен рэльефу і клімату былі магутныя ледавікі. Пад іх уздзеяннем на тэрыторыі сённяшняй Беларусі замест урадлівых збожжавых палеткаў калісьці рассцілалася тундра, палохала холадам самая сапраўдная вечная мерзлата.

Палеская нізіна, калі сабраць усе яе адрознасці, яшчэ і дагэтуль захоўвае шмат марскіх прыкмет. У свой час іх адзначаў вучоны-географ Э.Эйхвальд: «Адметным з'яўляецца пясчаны стэп на Палессі, гэта значыць паўночнай частцы Валынскай губерні, дзе, асабліва ў ваколіцах г.Ковеля, сустракаецца сыпучы пясок, як на марскім беразе Балтыйскага мора, і далей забалочаная нізіна ў Пінскім і Мазырскім паветах. Уся гэтая пясчаная і балоцістая раўніна выяўляе сляды вялізнага возера, якое існавала там у часы Герадота на зямлі старажытных будзінаў і якое злучала некалі яе з Балтыйскім морам».

Свой дагістарычны круты нораў захавала Прыпяць і да нашых дзён. У час разводдзя і моцных дажджоў яе разліў дасягае 30 кіламетраў і доўжыцца да 4 месяцаў. Аднак аўтахтонныя палешукі, нашчадкі старажытных герадотавых плямёнаў, як сапраўдныя паморы ўмела прыстасаваліся да гэткіх умоў. Вялікая вада абуджае ў іх навыкі і звычкі сапраўдных марскіх ваўкоў. Не цураліся ж яны некалі рачных падарожжаў на мясцовых суднах у Данцыг (Гданьск), Кёнігсберг (Калінінград) і Крамянчуг. Вывозілі туды здабытыя ў багатых тутэйшых лясах дзёгаць, смалу, дошкі, мачты для караблёў, іншыя лясныя даброты.

Тысячагадовае змаганне з суровымі ўмовамі, натуральны лад жыцця загартавалі палешукоў, спрыялі таму, што гэтыя дзеці прыроды навучыліся жыць у суладдзі з ёю, вылучаліся моцным здароўем і дужасцю. Сярод іх было шмат доўгажыхароў, якія мелі па 100 і больш гадоў. Як нідзе, цягам многіх стагоддзяў тут захоўваліся і з пакалення ў пакаленне перадаваліся шматлікія прымхі і забабоны, непаўторныя казкі, легенды, язычніцкія традыцыі.

А што да ваўкоў, то яшчэ Герадот лічыў першабытных насельнікаў поймы Прыпяці сапраўднымі чараўнікамі. Асабліва неўраў, якія спачатку жылі каля Піны, а затым перакачавалі на Прыпяць і ці не там стварылі легендарную і таямнічую краіну Неўрыду. Як і належыць сапраўдным чарадзеям чароўнай краіны, яны «ператвараліся кожны год на некалькі месяцаў у ваўкоў». Такіх пярэваратняў палешукі і дагэтуль называюць ваўкалакамі. Але іх тут не баяліся, а нават шанавалі. Бо, відаць, добра ведалі, што сапраўдныя неўры з любым ворагам змагаліся ў аблічча ваўкоў. Згадайце летапіснага князя Усяслава, які больш вядомы як Чарадзей. Яго таксама лічылі ваўкалакам.

Мяркуюць, што некалі існавала прыпяцкае адгалінаванне знакамітага гандлёвага шляху «з варагаў у грэкі», узбоч якога былі заснаваны гарады Тураў (980), Пінск (1097), Мазыр (1155). А ўвогуле першыя пасяленцы ў басейне Прыпяці з'явіліся ў 25-м тысячагоддзі да нашай эры. Сведчыць пра гэта адна з самых старажытных стаянак чалавека на Беларусі, якая адкрыта каля в.Юравічы Калінкавіцкага раёна.

У герадотавы часы паселішчаў у пойме Прыпяці было зусім мала. Ляпіліся яны на пясчаных пагорках-боханах сярод балот. Лодка стала звыклым транспартам для палешукоў, лес – іхнім надзейным жытлом, вялікая вада вызначала лад іхняга існавання. І хоць праз вякі жылі яны «паміж пустак, балот», «на ўзбярэжжы ракі шумнацечнай», ды іхняе светапазнанне не было абмежаваным, не былі яны абяздоленымі жабракамі. Гадавалі скаціну, лавілі рыбу, палявалі, даставалі з борцяў мёд. Будавалі судны і сплаўлялі ў далёкія краі сваё дабро ў абмен на тое, чаго нельга было здабыць на балотах, у шматлікіх азёрах і рэках, спракавечных пушчах. Галотай сябе яны не лічылі. Бо не толькі ўмела плялі лапці і хадакі, а цнатліва аберагалі і перадавалі ў спадчыну сваю непаўторную мову, дзівосныя показкі, свае высокага кшталту маральныя запаветы і сваю непарушную паляшуцкую годнасць.

Такія яны былі – герадотавы прашчуры беларусаў: будзіны і неўры, скіфы-земляробы, дзеці вады і лесу, якім выпала плаваць па таямнічым старажытным Моры Герадота. Такімі яны і засталіся – самабытныя і здатныя палешукі, выштукаваныя і загартаваныя ракой і ветрам, сонцам і пушчай, працай і песняй. А пра старадаўнасць і ўнікальнасць гэтага краю сведчаць шматлікія сённяшнія запаведнікі, заказнікі, паркі, музеі, навукова-даследчыя станцыі, помнікі прыроды.

УСПАМІНЫ

# АКУПАЦЫЯ

(чэрвень 1941 – ліпень 1944 г.)



Леанід ЛЫЧ, прафесар, доктар гістарычных навук

*Прысвячаю землякам-магілянам часоў вайны і нямецкай акупацыі.*

*(Працяг. Пачатак у №№31–40.)*

## Яўрэі адлічваюць апошнія дні

Ужо першае з'яўленне нямецкага салдата на магільнянскай зямлі паказала, што нічога добрага не чакае мясцовых яўрэяў. Жылі ж яны тут, як адзначалася вышэй, дзесьці з XVI стагоддзя. І жылі спакойна, займаючыся характэрнымі для гэтага народа відамі працы. Хаця яўрэяў і не так багата было ў Магільным, яны далі свету нямала таленавітых асоб, у прыватнасці мастака Яўгена Зака (жывучы ў эміграцыі ў Францыі, не раз сустракаўся з Маркам Шагалам), пісьменніка Якнегоза (Ш.Голдберг). Ад старых людзей не чуў і сам не быў сведкам якіх-небудзь фізічных уздзеянняў на яўрэяў з боку магільнянскіх беларусаў. Між сабой дзеці апошніх калі-нікалі ўступалі ў бойку: вуліца на вуліцу. У час гэтых боек ні адзін з процілеглых бакоў не замахваўся на яўрэйскіх хлопцаў. Яны, як мовяць спартыўныя каментатары, заставаліся па-за гульнёй.

У яўрэяў некалькі паспакайнела на душы, калі спыніўся рух нямецкіх салдат на ўсход і ў Магільным пэўны час панавала безуладдзе. Параўнальна спакойна было і ў першыя тыдні фарміравання нямецкага парадку. Трывога ўзнікла, калі яўрэяў пачалі ссяляць у цэнтр мястэчка, дзе і да гэтага іх найбольш за ўсё жыло. Яўрэям было над чым задумацца, калі іх дзецям забаранілі вучыцца ў школе. Па звычцы іх дзеці цягнуліся да будынка школы, спыняліся ля расчыненых вокнаў, пазіраючы, як ідуць заняткі ў класах. Настаўнікі не перашкаджалі гэтаму, але ў клас, напэўна ж, не пусцілі б ніводнага з іх, ведаючы пра афіцыйна ўведзеную забарону на школьнае навучанне яўрэйскіх дзяцей. З іх найчасцей за ўсё заглядаў у вокны Міша Перчык, з якім я разам вучыўся ў даваенныя гады ў 1–5-м класах.

Сярод яўрэяў хадзіла чутка (і многія ёй верылі), што пасля разгрому СССР іх пераселяць у Крым ці Паўночнае Прычарнамор'е. Лічылася, што гэта ўжо і не такі дрэнны варыянт. Паводле ўказанняў з Вузды Магільнянская валасная ўправа не толькі дазволіла, але і настойліва прапаноўвала яўрэям хадзіць у лес збіраць грыбы, каб пасля сушкі ўзяць іх з сабою ў дарогу. Збіранне грыбоў спрадвеку не лічылася для нашых яўрэяў традыцыйным промыслам. Лесу яны зусім не ведалі, таму прасілі каго-небудзь з магілян выступіць хоць адзін-два разы ў ролі праваднiка. Добраахвотна ўсклаў і я яе на сябе, разы тры-чатыры наведаўшы лес са сваімі яўрэйскімі аднагодкамі-сябрамі Мішам Перчыкам і Мойшам (Мотам) Бернштэйнам. Праз не такі ўжо і працяглы час яўрэі, больш-менш асвойтаўшыся з лесам, самастойна хадзілі па грыбы і, трэба сказаць, нямала насушылі іх.

Пасля заканчэння грыбнога сезона яўрэям забаранілі выходзіць за межы адведзенай ім у мястэчку тэрыторыі (у сапраўднае гета яна не была ператворана). Такія абмежаванні ўжо расцэньвалі як вельмі дрэнную прыкмету. Практычных жа захадаў па самавыратаванні ад верагоднай смерці не рабілася, хаця ў асяроддзі яўрэяў было і нямала мужчын маладога ўзросту. Відаць, спадзяваліся, што на фізічную расправу з імі акупанты не адважацца.

Усталяваны рэжым прывязкі да пэўнай тэрыторыі мясцовыя яўрэі часта парушалі, асабліва па вечарах. Вельмі ўжо хацелася сустрэцца, пагаварыць з тымі, з кім меліся сяброўскія дачыненні. Майго тату часцей за ўсё наведваў Іцка Вайс *(па невядомых прычынах ён, як і шэраг іншых яўрэяў, не трапіў у прыведзены ў кнізе "Памяць. Уздзенскі раён" (Мн. 2003) спіс загінуўшых у Вуздзенскім гета магільнянскіх яўрэяў. А ў яго ж акрамя жонкі было яшчэ і двое дзяцей. – **Л.Л.**)*, які меў дом на вуліцы Нарадоўская (з другой паловы 1950-х гадоў – Школьнай) насупраць нашай сядзібы. Гэта быў адзіны ў мястэчку яўрэй, які працаваў у калгасе, лічыўся найлепшым аратым. Сустрэчы насілі вельмі прыгнечаны характар, на што нiколькі не ўплывала ў лепшы бок нават чарка прывезенага з Негарэлага спірту. У сваё апошняе завітанне да нас Іцка прыйшоў з сякерай-калуном, выробленай у мясцовай кузні кавалём Янкелем Бернштэйнам. З непадробнай усмешкай, мо, яна была апошняй у жыцці Іцкі, ён, паклаўшы на лаву свой падарунак, сказаў:

– Міхась, калуна хопіць не толькі на твой, але і на век тваіх дзяцей, калі толькі яго хто-небудзь не скрадзе.

І Іцка не памыліўся. Яго калуном мы перакалолі столькі дроў, што іх хапіла б на некалькі грузавых цягнікоў. На заслужаны адпачынак калун не пайшоў і ў 1995 годзе, калі ўжо ніхто не жыў у нашым бацькоўскім доме. Калун забраў у Мінск мой брат Генадзь і зараз пры патрэбе коле ім на дачы дровы.

Нашую ж маму любіла жонка Янкеля Бернштэйна Ліба, славутая на ўсё мястэчка шашыстка. Мала каму з мужчын удавалася абгуляць яе. Прыходзіла яна часта да нас з сынам Мотам, з якім мне заўжды было чым заняцца. Пабедаваўшы пра сваё гора, Ліба садзіла за стол майго брата Геню (ішоў яму тады сёмы год) і пачынала гуляць з ім у шашакі, вядома ж, не на поўным сур'ёзе. Для сваіх гадоў ён няблага разбіраўся ў шашках, да чаго прыкладаў старанні і я. Заўважаючы, што Геня ад сустрэчы да сустрэчы ўсё больш і больш набірае моцы ў гульні ў шашкі, яна не стрымалася:

– Жэня, а Жэня! У цябе расце разумны сын. Ён будзе вялікім чалавекам.

Затым падышла да самага малодшага члена нашай сям'і – Толі (вось-вось яму спаўняўся трэці год) і дадала:

– Дый у гэтага лобік немалы.

Ліба не памылілася. Генадзь стаў добра вядомым у краіне навукоўцам-эканамістам, акадэмікам Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі. Толя толькі з-за ранняй смерці ў 1995 годзе (удзельнік ліквідацыі аварыі на Чарнобыльскай АЭС) не стаў доктарам фізіка-тэхнічных навук, аднак дамогся значнага поспеху ў гэтай сферы навуковай дзейнасці.

Як і чакалася, апошні дзень Пампеі для магільнянскіх яўрэяў быў не за гарамі. Прыпаў ён на другую палову восені 1941 года. Паступіла распараджэнне ўсіх іх перасяліць у Вузду. Дзеля гэтай мэты кіраўніцтва мясцовага калгаса выдзеліла патрэбную колькасць падвод. З сабой дазвалялі ўзяць толькі самае неабходнае з вопраткі і абутку, прадуктаў харчавання. Часу на зборы адвялі вельмі мала, таму паліцэйскі нарад (зусім нешматлікі) загадаў не марудзіць. Ён не забараняў неяўрэям быць у гушчы тых падзей. А пaглядзець на ўсё гэта многім хацелася, і галоўным чынам дзеля шчырага спачування, бо яўрэі ж пакідалі сваю малую радзіму, ведаючы, што паўнавартасную замену ёй не ўдасца знайсці. Чым менш заставалася часу да ад'езду, тым мацней галасілі яўрэі. Ад бачанага і чутага ні ў аднаго з магілян не было радасці на душы, усмешкі на твары. Некаторыя нават праслязіліся, калі павозкі з яўрэямі рушылі ў напрамку Вузды. Амаль усе яны пастараліся сесці так, каб, пакідаючы дарагое, любае мястэчка, маглі скіраваць позірк у яго бок.

Дэпартаваных з Магільнага ў Вузду яўрэяў адразу ж заперлі ў гета, дзе іх, акрамя Мойшы (магіляне-беларусы называлі яго Мішам), неўзабаве замардавалі. Мойшу ж пакінулі ў жывых з-за яго залатых рук. Складанымі відамі прафесійнай дзейнасці займаўся ён некалі і ў Магільным. Працаваў і на кані. У даваенны час па Нёмане ганялі і плыты, і пускалі шарош (не звязаная ў плыты драўніна). У апошнім выпадку не раз здаралася, што бярвенні танулі і апускаліся на дно ракі. Дастаць іх з вады і выцягнуць на бераг для прасушкі з'яўлялася зусім не простай справай. Звычайна сплаўшчыкаў лесу выручаў Мойша, у якога быў дужы конь, неабходныя моцныя ланцугі. Не па сваёй волі трапіўшы ў Вузду, ён па ўказанні мясцовай адміністрацыі займаўся самымі складанымі відамі вытворча-тэхнічнай дзейнасці, найчасцей звязанай з электрычнасцю. Вольна хадзіў па тэрыторыі гарадскога пасёлка аж да канца нямецкай акупацыі. Пакідаючы Вузду, гестапаўцы ўсё ж прыкончылі так патрэбнага ім увесь час Мойшу.

З магільнянскіх яўрэяў не трапілі на той свет ад рук катаў толькі іх дзеці, што падчас нападу Германіі на СССР жылі ў розных гарадах Беларусі, а то і за яе межамі. З іх ніхто не пажадаў (і зрабілі вельмі правільна) падацца да сваіх бацькоў у Магільнае. Менавіта так паступілі дзеці Янкеля Бернштэйна Гейсель, яго брат (імя не памятаю) і Гута. Апошняя вучылася на стаматолага і набыла гэтую спецыяльнасць у Мінску ў першыя пасляваенныя гады...

***

І ўсё ж пасля вывазу яўрэяў з Магільнага ў нашай мясцовасці працягвала жыць прадстаўніца гэтай нацыі па імені Соня. Была яна жонкай майго дваюраднага дзядзькі, ваеннага фельчара Косціка Бохана, і да вайны жыла ў Мінску. Перад уварваннем нямецкіх войскаў у горад пакінула яго і проста цудам разам з двума маленькімі дзецьмі дабралася да радзімы мужа ў вёску Замосце. Яе жыхары ведалі, што па нацыянальнасці Соня яўрэйка. З усталяваннем акупацыйнага рэжыму ёй стала небяспечна заставацца ў бацькоў мужа. Яна перабралася да нас, да стрыечнай сястры свайго мужа. Каб не выдаць сябе (дарэчы, у яе былі вельмі непрыкметныя яўрэйскія рысы твару), яна не пайшла ні на якае збліжэнне з мясцовымі яўрэямі. Суседзі асаблівай зацікаўленасці да яе не праяўлялі. У той час з'яўлялася не рэдкасцю сустрэць у Магільным чалавека немясцовага паходжання. Вось толькі магло ўзнікнуць пытанне, чаму Соня знайшла сабе прытулак у доме, дзе пяць дзяцей і хворы бацька. Месяцы праз два Соня, параўнальна яшчэ маладога ўзросту, паспела пасябраваць з мясцовымі дзяўчатамі і ў адной з іх, у Ніны Дзесюкевіч, што жыла непадалёку ад мястэчка ў пасёлку Матэцкія, пасяліцца. Да нас заходзіла рэдка і прычым толькі па вечарах. У такі ж час непрыкметна наведвала ў Замосці і сваіх дзяцей. Балазе хата знаходзілася на самым ускрайку вёскі, каля старой грэблі і мясцовых могілак, таму на вочы нікому ніколі не траплялася.

Карэнны пералом у жыцці Соні наступіў з разгортваннем партызанскага руху ў нашай мясцовасці. Разам са сваімі сяброўкамі яна актыўна далучылася да яго. З аўтаматам за спінай не хадзіла. А вось са сваёй сяброўкай Нінай Дзесюкевіч рэгулярна вазілі з Магільнага на базар у Стоўбцы атрыманае ад партызан мяса і абменьвалі там яго на соль. Да іх прыгледзеліся тыя, каму гэта ставілася ў абавязак. У лесе па дарозе са Стоўбцаў у Магільнае паліцэйскія арганізавалі засаду, на якую і нарваліся сувязныя партызанаў. У санях, напоўненых сенам, паліцэйскія адшукалі вялікую колькасць солі. Ім зусім не цяжка было зразумець, для каго яна прызначалася. Учыніўшы расстрэл магільнянскіх патрыётак, жыхарам бліжэйшай вёскі загадалі закапаць іх у магілу. Дзе канкрэтна яна знаходзілася, магілянам не было вядома ні тады, ні ў больш познія гады. У той час такія факты часта здараліся на Беларусі.

Трагічны лёс яўрэяў Магільнага ў гады акупацыі быў тады яго вялікім агульным болем. А вось сёння пра гэта памятае толькі невялічкая жменька жыхароў – непасрэдных сведак жорсткага акупацыйнага рэжыму.

*(Працяг у наступных нумарах.)*

ІНІЦЫЯТЫВА




Алесь ЧАХОЛЬСКІ:

# «Трэба ставіць і дошку, і камяні!»

*Кіраўніцтва Мінгарвыканкама не бачыць неабходнасці ва ўсталяванні памятнага каменя ў скверы каля Нацыянальнага тэатра імя Янкі Купалы, дзе ў снежні 1917 года адбыўся Першы Усебеларускі з'езд.*

Нагадаем, што Зянон Пазьняк ініцыяваў ідэю ўсталявання па ўсёй Беларусі і за яе межамі памятных камянёў у гонар 100-гадовага юбілею абвяшчэння незалежнасці Беларускай Народнай Рэспублікі. Эскіз выявы, якая мусіць быць выбіта на прыродным камені, зрабіў вядомы мастак Аляксей Марачкін.

*"Абвяшчэнне Беларускай Народнай Рэспублікі з'яўляецца важнай падзеяй у гісторыі Беларусі. Нягледзячы на тое, што БНР як дзяржава не адбылася, упершыню была не толькі сфармулявана ідэя нацыянальнай дзяржаўнасці, але і зроблены практычныя крокі па яе рэалізацыі,* – гаворыць дырэктар Інстытута гісторыі Акадэміі навук **Вячаслаў Даніловіч**. – *Менавіта ў гэтым заключаецца важнасць і значнасць абвяшчэння БНР".*

Чыноўнікі Мінгарвыканкама перакананы, што ў Мінску будзе дастаткова толькі памятнай дошкі.

*"Па ініцыятыве ГА "Беларускі саюз мастакоў" і ў адпаведнасці з дзеючым заканадаўствам Міністэрствам культуры Рэспублікі Беларусь узгоднена стварэнне і ўстаноўка на будынку па вуліцы Валадарскага, 9 мемарыяльнай дошкі да стагоддзя абвяшчэння Беларускай Народнай Рэспублікі,* – гаворыцца ў адказе, які месяц таму атрымала кіраўніцтва Кансерватыўна-Хрысціянскай партыі – БНФ. – *У стварэнні і ўстаноўцы ў Мінску яшчэ аднаго памятнага знака, прысвечанага дадзенай тэматыцы, не бачым неабходнасці".*

Калі будзе ўсталявана мемарыяльная дошка на Валадарскага 9, дзе была прынята Трэцяя ўстаўная грамата БНР, гарадскія ўлады не ўдакладняюць.

Дарэчы, дошка атрымалася вельмі прыгожай. Яна ўжо гатовая, важыць каля 130 кілаграмаў і пакуль захоўваецца на скульптурным камбінаце, дзе яе вырабілі. Аўтар дошкі – скульптар **Ігар Засімовіч**. Калі чыноўнікі дадуць адмашку на ўсталяванне – пакуль дакладна не вядома.

Кіраўнік грамадскай дырэкцыі мемарыяла "Курапаты" **Алесь Чахольскі** не засмучаны адказам чыноўнікаў наконт усталявання каменя ў скверы каля Купалаўскага тэатра.

*"Святкаванне 100-годдзя БНР не закончылася 25 сакавіка, юбілейны год працягваецца!* – выказвае сваю пазіцыю кіраўнік грамадскай дырэкцыі мемарыяла "Курапаты" **Алесь Чахольскі**. – *Таму трэба ставіць памятныя знакі, камяні, шыльды, дошкі па ўсёй Беларусі. Як гэта зрабілі, напрыклад, у Лідзе.*

*Трэба браць ініцыятыву на сябе і не чакаць нейкіх указанняў. Трэба рабіць беларускую справу".*

**Марына КОКТЫШ.**

ТЫМ ЧАСАМ

*Кансерватыўна-Хрысціянская партыя – БНФ збірае ахвяраванні на памятны знак (камень) да 100-годдзя БНР.*

*ААТ "Беларусбанк", аддзяленне №386 філіяла 500-му рахунак:*

*BY51 AKBB3014 0000 0605 4602 0386 BYN*

*Дзягілева-Жывалеўская Галіна.*

*А на краўдфандынгавай платформе talaka.by ідзе збор сродкаў на рэалізацыю праекта "Народны мемарыял "Курапаты".*

СУМНЫЯ ГІСТОРЫІ

# Залатая «халява»



Ілюстрацыйнае фота

Апошнім часам багата з'явілася розных фірм, якія заваблiваюць людзей да сябе на "прэзентацыі". Схема простая: вам тэлефануюць дадому і заліваюцца салаўём з нагоды неверагодна танных тавараў, вялікіх зніжак і мноства бясплатных падарункаў. І народ (у асноўным пенсіянеры) купляюцца на такую, груба кажучы, замануху. У выніку ж усё заканчваецца дастаткова сумна.

*"Днямі, напрыклад, у нашу арганізацыю звярнулася жыхарка Жлобіна Сняжана Л., якая распавяла сваю гісторыю,* – расказвае старшыня Пухавіцкай раённай арганізацыі ГА "Беларускае таварыства абароны правоў спажыўцоў" **Васіль ВАЛАСЮК**. – *28 красавіка гэтага года яна заключыла на прэзентацыі дамову куплі-продажу масажнай накідкі за 4200 рублёў са зніжкай 30 працэнтаў. У выніку жанчыне накідка абышлася ў 2950 рублёў, і ў дадатак ёй далі чатыры падарункі – дзве падушкі, коўдру і пыласос. Але тавар быў прададзены ў крэдыт на 48 месяцаў, з аплатай 95 рублёў у месяц".*

Радасць ад такой "халявы" ў Сняжаны Л. знікла, калі дома яна падлічыла, што за чатыры гады выплаціць 4560 рублёў. Масажная накідка, дзве падушкі, коўдра і не самы дарагі пыласос каштуюць 2100 долараў? У такім выпадку на таварах павінна быць яшчэ і залатое напыленне.

*"Сняжана Л. звярнулася да нас, мы ў сваю чаргу падалі прэтэнзію ў фірму, якая ладзіла прэзентацыю,* – працягвае прадстаўнік таварыства абароны правоў спажыўцоў. – *Дзеля справядлівасці трэба сказаць, што грошы прадпрымальнікі адразу ж паабяцалі аддаць. Як вядома, тавар у магазін можна вярнуць на працягу 14 дзён з моманту пакупкі. Але я ўпэўнены, што большасць тых, хто набыў на такіх прэзентацыях тавары, не ведаюць пра гэта. Тым больш што тая брэсцкая фірма, якая прадавала накідкі, ладзіць прэзентацыі менавіта ў маленькіх гарадах па ўсёй Беларусі. Не кожны пенсіянер затым паедзе ў Брэст, каб вярнуць грошы. А калі на працягу 14 дзён не вернеце дарагія "цацкі", то давядзецца аж чатыры гады выплачваць крэдыт".*

У пенсіянеркі **Надзеі Шчамялёвай**, якая патэлефанавала ў рэдакцыю, практычна тая ж сітуацыя.

*"Патэлефанавалі дадому, мужчына прадставіўся супрацоўнікам брэсцкай фірмы, якая прадае артапедычныя сцелькі,* – кажа яна. – *Паведаміў, што ў нашым раённым цэнтры ў такі і такі час адбудзецца прэзентацыя, запрасіў на мерапрыемствы. Я звычайна не асабліва адгукаюся на такія запрашэнні, але ў мяне скаліёз хрыбетніка, артрыт каленнага сустава, а мужчына паведаміў, што сцелькі – лячэбныя: маўляў, дазволяць мне вылечыцца. Дадаў, што на прэзентацыі выступіць дацэнт медыцынскіх навук, які падрабязна распавядзе пра тое, як сцелькі лечаць".*

70-гадовая жанчына нават не выключае, што на яе ўздзейнічалі гіпнозам падчас прэзентацыі.

*«Я ж чалавек з вышэйшай адукацыяй, а падпісала дамову, як у тумане,* – працягвае Надзея Аляксееўна. – *Заманілі дастаткова проста: маўляў, пры заключэнні дамовы падчас прэзентацыі сцелькі абыдуцца ў 180 рублёў, а ў Брэсце – ужо ў 300. У мяне пры сабе было толькі 15 рублёў, таму аформіла тавар у растэрміноўку. Прыехала дадому, пачала чытаць інструкцыю, і аказалася, што прадалі сцелькі, каб ногі не пацелі. Пра якое лячэнне можна казаць? Больш за тое! Паколькі тавар аформіла ў растэрміноўку, то я павінна выплаціць за сцелькі 300 рублёў. Дамову можна было скасаваць, але для гэтага трэба ехаць у Брэст, а мне цяжка адправіцца ў іншы горад. Фірма адмовілася скасоўваць дамову дыстанцыйна і пагражае падаць у суд, калі не буду аплачваць тавар".*

Адным словам, сітуацыя такая, што, з аднаго боку, людзей быццам бы ніхто і не прымушае заключаць дамовы на куплю дарагіх (і нярэдка непатрэбных) рэчаў, а з іншага – "фірмачы" – добрыя псіхолагі, і ведаюць, на якія кнопкі трэба націснуць, каб сталыя людзі самі аддалі грошы. Парад тут можна даваць шмат, але колькасць ахвяр прэзентацый не змяншаецца. Людзі забываюцца, што бясплатны сыр бывае толькі ў пастцы…

**Алесь СВЯТЛАНІЧ.**

НА СЛОВАХ І...

## Настаўнікі абяцаных 800 рублёў пакуль не атрымалі

***Толькі ў Мінску ўдалося выйсці на гэты паказчык заработнай платы школьных педагогаў.***

*«Зарплата педагога, як і зарплата ўрача, павінна быць годнай – задачу прэзідэнт паставіў. Яна павінна быць выканана і ў гэтым, і ў наступным годзе. У гэтым годзе ў нас плануецца 800 рублёў у сярэднім па галіне»,* – такую заяву зрабіў у жніўні мінулага года намеснік прэм'ер-міністра Беларусі **Васілій Жарко** пасля нарады ў прэзідэнта, на якой абмяркоўваліся пытанні развіцця сферы адукацыі.

Але, аказваецца, пастаўленая прэзідэнтам задача дагэтуль не выканана.

Нядаўна прафсаюз работнікаў адукацыі і навукі апублікаваў апошнія звесткі пра сярэдні заробак у сферы адукацыі. І атрымалася, што за перыяд студзень–сакавік настаўнікі ў Беларусі ў сярэднім заraблялі 749,3 рубля. У сакавіку іх заробкі былі большыя. Але 800 рублёў не дасягнулі, спыніліся на лічбе 771,7 рубля. І толькі мінскія настаўнікі ў сакавіку атрымлівалі ў сярэднім 841,6 рубля зарплаты. Прычым гэта сярэдняя налічаная зарплата, "чыстымі" на рукі выйшла менш.

Што тычыцца рэгіёнаў, то там сітуацыя з сярэднімі заробкамі настаўнікаў у сакавіку выглядала так:

**Брэсцкая вобласць** – 779,1 рубля,
**Віцебская** – 765,2,
**Гомельская** – 780,1,
**Гродзенская** – 731,8,
**Мінская** – 743,2,
**Магілёўская** – 732,4 рубля.

Што тычыцца сярэдняй зарплаты ў сферы адукацыі, то тут зусім далёка ад *"800 рублёў у сярэднім па галіне"*. У сакавіку гэты паказчык склаў толькі 635,2 рубля. Пры гэтым трэба адзначыць, што заробкі прафесараў і выкладчыкаў ВНУ нарэшце дасягнулі праславутых пяцісот долараў і склалі ў сакавіку 1108,4 рубля.

**Вольга ГРЫНЯВІЦКАЯ.**

ПАРАЛЕЛІ

# Па слядах «победобесия»

Адгрымелі салюты 9 Мая. Свята, якое, безумоўна, нейкім чынам варта адзначаць і сёння, праз больш як 70 гадоў пасля 1945-га. Але пара вярнуцца да штодзённай рэальнасці і, урэшце, адказаць на пытанне “Што гэта было?”.

Не я першы пішу пра тое, што дзейныя ўлады ў суседняй Расіі і іх тутэйшыя адданыя сябры выкарыстоўваюць дзень перамогі над нацысцкай Германіяй у 1945 годзе толькі і выключна дзеля таго, каб набраць сабе палітычны капітал сёння. Некаторыя дасціпныя аўтары даўно акрэслілі такія паводзіны ёмкім рускім словам “победобесие”. Нехта можа ўбачыць у гэтым ёрніцтва. Але я напішу пра тое, што ўразіла і ўражвае мяне самога. Я сам змалку бываў на ўрачыстасцях з нагоды 9 Мая. Бываў з маім бацькам, Пятром Мікалаевічам. Ён прайшоў вайну, што называецца, ад званка да званка: пачаў яе малодшым лейтэнантам і камандзірам узвода 24 чэрвеня 1941 года тут, у Беларусі, скончыў… не, не 9 Мая, а 2 верасня 1945 года ўжо ў званні маёра ў далёкай Маньчжурыі, калі капітулявала Японія. Чамусьці сённяшнія прапагандысцкія рупары забываюць пра тое, што і ў жніўні таго 1945-га воіны Чырвонай Арміі, у тым ліку беларусы, гінулі на фронце Другой сусветнай вайны.

Але вернемся да майскіх мерапрыемстваў майго дзяцінства і юнацтва. Памятаю, як бацька падчас іх вітаўся з кожным другім на тым мерапрыемстве, бо гэта былі рэальна людзі, якія перажылі тую страшную вайну. Яны сапраўды радаваліся, што ім удалося выжыць, і згадвалі пра тых, хто да канца 1945 года не дажыў… Усё гэта стварала непаўторную і шчырую атмасферу. На тых мерапрыемствах не было партрэтаў Сталіна.

Сапраўдныя ветэраны вайны ў сваёй большасці цвяроза ацэньвалі “палкаводчы талент” гаспадара краіны.

Расійскія даследчыкі з Інстытута ваеннай гісторыі ў Маскве прыводзяць такія звесткі пра суадносіны сіл паміж Германіяй і яе саюзнікамі, з аднаго боку, і Савецкім Саюзам, з другога, паводле стану на 22 чэрвеня 1941 года:

| Колькасны склад жывой сілы і ўзбраенняў | Вермахт і саюзнікі, Венгрыя, Румынія і Фінляндыя (у т.л. на Усходнім фронце) | Чырвоная Армія (у т.л. у дзейнай арміі) |
|---|---|---|
| Жывая сіла (чалавек) | 4.306.800 | 3.289.851 |
| Танкі | 6700 (4300) | 22.600 (14.200) |
| Самалёты | 13.700 (5900) | 20.000 (9200) |
| Гарматы і мінамёты (без мінамётаў 50-міліметровага калібру) | 90.300 (47.200) | 76.500 (32.900) |

Як бачым, міф пра тое, што “геніяльнаму Сталіну” не было, як і чым ваяваць у чэрвені 1941 года, разлазіцца па швах. Далейшыя факты яшчэ больш жахлівыя. Праз месяц пасля пачатку баявых дзеянняў Чырвоная Армія страціла каля мільёна вайскоўцаў, у тым ліку каля 725 тысяч трапіла ў нямецкі палон і мусіла паміраць там ад голаду, холаду і эсэсаўскіх здзекаў. Да восені 1941 г. у руках Германіі і яе саюзнікаў апынуліся Эстонія, Латвія, Літва, Беларусь, Малдова, большая частка Украіны і Крыма, значныя абшары расійскай тэрыторыі. На канец верасня 1941 года незваротныя страты жывой сілы Чырвонай Арміі (забітыя, памерлыя ад ран і няшчасных здарэнняў) склалі велізарную лічбу – каля 2 млн 130 тыс. чалавек. Страты ў баявой тэхніцы склалі: 14.006 танкаў, 6988 самалётаў і 66.888 гармат і мінамётаў. Ваенна-марскі флот СССР страціў адзін крэйсер, 18 лідараў і эсмінцаў, 23 падводныя лодкі, 18 вартавых караблёў, 13 кананерскіх лодак, 37 загароджвальных суднаў і тральшчыкаў. Усё гэта адбылося з Чырвонай Арміяй і флотам, як мы бачым, на працягу ўсяго толькі трох месяцаў і дзевяці дзён вайны, нягледзячы на масавы гераізм і самаахвярнасць соцень тысяч салдат і афіцэраў.

Мой бацька са сваім узводам трапіў у акружэнне непадалёк ад Барысава ужо на восьмы дзень вайны і выходзіў з гэтага акружэння (калі трэба, уступаючы ў перастрэлкі з немцамі) аж да сярэдзіны кастрычніка таго самага года. Прабіліся з акружэння непадалёк ад вядомага Барадзінскага поля, ужо зусім недалёка ад самой Масквы, і неўзабаве зноў уступілі ў абарончыя баі на подступах да расійскай сталіцы. Потым былі тры гады ўнутранай абароны блакаднага кальца пад Ленінградам, паход ва Усходнюю Прусію, баі за Кёнігсберг, урэшце тая самая Маньчжурыя…

Брат майго бацькі, мой дзядзька Мікалай Мікалаевіч, 22 чэрвеня 1941 года быў таксама малодшым лейтэнантам дзейнай Чырвонай Арміі. Яго часць дыслакавалася непадалёк ад Маладзечна – і больш пра ягоны лёс ні бацька, ні мы, яго сыны, з маскоўскіх архіваў так нічога і не здолелі даведацца…

Цяпер кожнага 9 Мая нам “прад’яўляюць” нібыта ветэранаў, якія, усе ў медалях і ордэнах, бадзёра вітаюць дзейных начальнікаў дзяржавы… Давайце падлічым. Апошні раз на дзейныя франты Другой сусветнай вайны прызывалі людзей 1925 года нараджэння (нават яго першай паловы). Сёння гэтым паважаным людзям па 93 гады – і гэта ж самыя малодшыя ўдзельнікі той вайны! Ці могуць сённяшнія ўдзельнікі “парадаў ветэранаў” сумленна браць удзел у публічных мерапрыемствах 9 Мая? Пытанне рытарычнае…

Каго ж нам замест іх падсоўваюць? Пытанне таксама рытарычнае. 9 Мая дружнай калонай выходзяць тыя адстаўныя афіцэры, прапаршчыкі і сяржанты былой Савецкай Арміі, абсалютная большасць з якіх ніколі і нідзе не ваявала, але паспяхова сышла на дзяржаўную пенсію ў 45 гадоў. Заслужылі яны ўшанавання менавіта 9 Мая? Пытанне зноў-такі рытарычнае.

Пра вядомага генералісімуса я ўжо казаў вышэй. Пра яго ролю не толькі ў вайне, а ва ўсёй трагічнай гісторыі пакаленняў нашых бацькоў і дзядоў лаканічна кажа наступны – адзін з тысяч падобных! – дакумент, дзе мы бачым асабісты сталінскі аўтограф. Гэты дакумент – чарговая санкцыя на масавае забойства савецкіх людзей. Чаму я публікую менавіта яго? Паводле алфавіту, на літару “Б” у ім пад №12 фігуруе асоба выдатнага савецкага пісьменніка, абсалютна лаяльнага да савецкай улады аўтара знакамітай “Конармии” Ісака Эмануілавіча Бабеля… Падобныя дакументы з сотнямі прозвішчаў ужо беларускіх пісьменнікаў, вучоных і простых сялян ды рабочых свайго часу апублікаваў светлай памяці Леанід Маракоў, пляменнік закатаванага беларускага паэта.

Нават пасля гэтага нешта яшчэ казаць пра асобу “геніяльнага палкаводца” проста не хочацца… Даруй мне, тата, за тое, што сёння па плошчах ходзяць людзі і махаюць яго партрэтамі. За тое, што Тваю Перамогу беспардонна прысабечылі сабе іншыя… Якім так соладка гучыць слова “ўлада”.

**Лявон БАРШЧЭЎСКІ, сын ветэрана вайны.**



РЭПАРТАЖ З ВАРШАВЫ

# Як пан Томаш Там вярнуў мяне ў далёкія шасцідзясятыя…



Савецкі гадзіннік «Янтарь» стаяў у мяне ў кватэры ў 80-я гады мінулага стагоддзя. Убачыўшы яго ў вітрыне варшаўскага магазіна, не паверыў вачам. І надоўга прыліп да шыбы.

Гэтае месца я прыкмеціў яшчэ год таму, вандруючы па старых вуліцах Прагі – раёна Варшавы, некаторыя з куткоў якога не мяняліся ўжо больш за сто гадоў. Тут можна ўбачыць на мурах дамоў нават сляды ад куль – сведак баёў 1944 года за горад паміж савецкімі салдатамі, польскімі паўстанцамі і нямецкімі акупантамі.

У гістарычнае асяроддзе вельмі ўдала ўпісаўся салон «60-я гады» (Lata 60-te). У краме, што больш падобна да музея, сабрана, бадай, самая багатая калекцыя прадметаў інтэр’еру 60-х гадоў мінулага стагоддзя. Здаецца, што трапіў у кватэру Шпака з фільма «Іван Васільевіч мяняе прафесію».

Сапраўды, «кватэра» абсталявана так, што тут ёсць усё – ад дарагіх чайных сервізаў да тэлевізараў і прайгравальнікаў для пласцінак. Не кожны чалавек 1960-х мог такое сабе дазволіць. Зрэшты, і сёння гэта рэчы не для радавога спажыўца. А для знаўцаў. Прычым нябедных. І попыт на такія прадметы ёсць. Нельга сказаць, што вялікі, аднак дастатковы, каб такая крама з’явілася і працягвала існаваць.

З уладальнікам салона панам **Томашам Тамам** мы пагаварылі пра мастацтва і бізнес, а таксама пра настальгію па 60-х.

Мяне перш за ўсё зацікавіла, чаму з’явіўся такі тэматычны магазін менавіта ў варшаўскім раёне Прага, атмасфера якога адсылае хутчэй да пачатку XX стагоддзя, 1930-х гадоў. І вось што я пачуў ад Томаша Тама:

– Гэтая крама існуе ўсяго паўтара года. А намнога раней я стварыў сайт у інтэрнэце, праз які прадаю прадметы з 1960-х гадоў. Аднак ездзіць па іх трэба было на спецыяльны склад, які знаходзіўся за Варшавай. Гэта было нязручна і для мяне, і для кліентаў. Бо кожны патэнцыяльны пакупнік хоча пабачыць рэч не толькі на экране камп’ютара, а яшчэ лепш – патрымаць у руках. Таму я вырашыў адкрыць гэты салон. Ёсць у яго яшчэ адна мэта. Мне ўдалося сабраць найбольш рэпрэзентатыўную калекцыю па 60-х гадах, і ёю цікавяцца кінематаграфісты, фатографы, мастацтвазнаўцы. Яны бяруць штосьці напракат. Тут усё расстаўлена так, што вельмі лёгка выбраць патрэбны прадмет: яны ўсе разбіты на тэматычныя групы.

**– А як ішоў збор прадметаў для калекцыі?**

– Скажу адразу, каб развеяць міф: я не шукаю рэчы на сметніках. Хаця па тэлебачанні можна пачуць такое глупства пра калекцыянераў. Так, вядома, хтосьці нешта знаходзіць у кантэйнерах для адходаў… Аднак у маім выпадку ўсё інакш. Ёсць многа людзей, якія хочуць пазбавіцца ад старых прадметаў. Яны да мяне звяртаюцца, я іх знаходжу. Не заўсёды прыходзім да згоды па цане. Але мой збор няўхільна папаўняецца. Штосьці купляю на кірмашах антыкварыяту, якіх нямала ў Варшаве.





**– Дык мо і іншым лепш купляць на такіх кірмашах, чым у вас з нацэнкай?**

– Каб знайсці статуэтку або крэсла той формы, стылю, што вас цікавяць, можна змарнаваць гады. А навошта вам губляць час? Таму сапраўдныя знаўцы звяртаюцца проста да мяне.

**– Якім чынам фарміруецца цана на прадметы?**

– Спачатку мне здавалася, што цана павінна складацца з кошту закупу, падатку і нацэнкі. Але потым я зразумеў, што гэта няправільны падыход. Кожная рэч – гэта твор мастацтва, культурны артэфакт. Таму я ацэньваю яго паводле таго, наколькі ён рэдкі, цікавы. Па сутнасці, не буду ўтойваць, цана бярэцца з галавы. А далей – справа ўдачы. Трэба чакаць кліента, які ацэніць тавар прыкладна так жа, як і я, і купіць яго.

**– Мабыць, колькасць такіх людзей абмежаваная?**

– Сапраўды, у нас, у Польшчы, многія хочуць усё купіць танна. І гэта звязана, мабыць, з тым, што людзі ў большасці жывуць даволі сціпла. Таму разлічваць даводзіцца на тых, хто не толькі цэніць арыгінальнасць рэчаў 1960-х гадоў, але і мае на іх набыццё грошы.

Заўважаю: побач з намі стаіць мэбля тых, шасцідзясятых, гадоў. Вядома ж, простая па дызайне, але моцна збітая, як кажуць, на вякі. Міжволі ўзнікае пытанне:

**– Цікава, а каму патрэбна мэбля, якой больш за паўстагоддзя?**

– Па-першае, тая, якую я прапаную кліентам, адрамантавана і можа праслужыць яшчэ паўстагоддзя. Сучасная мэбля хоць і прыгожая, але цэны такія, што не кожнаму па кішэні. А таму кліентаў у мяне хапае.

**– Які самы дарагі прадмет у вашым магазіне?**

– Камплект з двух крэслаў і кафейнага століка польскай фірмы Ład. Праўда, гэта рэчы яшчэ 1954 года. Іх цана – 5000 злотых (*прыкладна 2900 беларускіх рублёў.* – ***В.К.***).

**– А тэлевізар таго часу?**

– 250 злотых.

**– Нядорага, я сказаў бы…**

– А нядаўна быў кліент, якому здалося, што гэта занадта. Як я ўжо казаў, у нас яшчэ шмат бедных людзей. І, на жаль, гэтая крама – не столькі бізнес-праект, колькі вынік маіх эстэтычных патрэб.

**– А якія рэчы карыстаюцца найбольшым попытам?**

– Перш за ўсё дэкаратыўнае шкло. Я і сам люблю яго. Нешта калекцыяніру́ю, а з часам частку збору прыношу ў краму. Гэта бясконцы працэс…

**– Ваш салон мне нагадвае музей. А ці ёсць у сучасных музеях экспазіцыі, прысвечаныя інтэр’еру 1960-х гадоў?**

– Да нядаўняга часу ўсе экспазіцыі па інтэр’еры заканчваліся на арт-дэка. Але летась у снежні ў Нацыянальным музеі ў Варшаве адкрылася сталая выстаўка, на якой можна ўбачыць прадметы XX стагоддзя з розных эпох. Спадзяюся, 60-я гады яшчэ будуць па-сапраўднаму ацэнены. Гэта быў выдатны час у гісторыі мастацтва. Мы будзем не раз вяртацца ў тую эпоху па ўзоры для рэчаў сучаснага інтэр’ера. Але ніякая копія не заменіць арыгінал.

**Віктар КОРБУТ.**

**Фота аўтара.**

ВЕРНИСАЖ

# Акварельный вечер в Доме Ваньковичей

К Ваньковичам гости собирались загодя – боялись проливного дождя. И все равно многие попали под майский ливень и, оставляя в гардеробе этого дворянского гнезда зонты, плащи и большие лужи, с извинениями проходили в гостиную. А там все было чинно и торжественно: звучала музыка Манюшко и Шопена, дипломаты и художники чинно раскланивались друг с другом. Можно было, право слово, перепутать века! Тем более что выставка акварелей Ольги Новицкой, на презентацию которой собиралась публика, прямо отсылала в прошлое, в общую белорусско-польскую историю.

Художница давно выбрала эту тему: она пишет западнобелорусские дворянские фольварки, парки, замки. Но не останки, по которым прошлось время, не современные развалины, а своего рода воспоминания: то, как *«маёнткі»* могли выглядеть в то время, когда там жили, любили и ухоидили в мир иной их хозяева. Потому выставка так и называется «Сны о минувшем». Хотя романтические эти сны, добавлю, не без легкой грусти. Тем более акварель, как никакая другая техника, помогает создать на бумаге флер поэзии и мечтательности.

Выставка Ольги Новицкой, организованная при поддержке Посольства Республики Польша в Республике Беларусь, уже была показана во Вроцлаве, а теперь пришел черед Минска. На презентации в столице Беларуси художница объявила, что все картины приносит в дар Дому-музею Ваньковичей.

Открытие выставки счастливо совпало с Международным днем музеев, и поэтому было ознаменовано еще одним неординарным событием: награждением директора Национального художественного музея Владимира Прокопцова почетным знаком МИД Польши медалью «Bene Merito». Ее вручил генеральному директору музея лично Временный Поверенный Республики Польша в Республике Беларусь Михал Хабрас.

**Виктория ДРОЗД.**

*Минск.*

ЧУЛІ?

# Літва выходзіць з адзінай з Беларуссю энергасістэмы

*Міністр энергетыкі Літвы Жыгімантас Вайчунас распарадзіўся пачаць рэалізацыю праекта па аптымізацыі сеткі перадачы электраэнергіі на паўночным усходзе краіны.*

*«У рамках праекта будуць праводзіцца работы па мадэрнізацыі сеткі, якія неабходны для паспяховага адключэння савецкай сістэмы і падключэння да бяспечнай еўрапейскай сеткі. У той жа час гэта забяспечыць надзейную працу сеткі і лепшую якасць абслугоўвання для спажыўцоў паўночна-ўсходняга літоўскага электраэнергетычнага сектара і сэканоміць больш як паўмільёна еўра ў год з-за зніжэння эксплуатацыйных расходаў на электраабсталяванне»*, – цытуе БелаПАН Вайчунаса.

Дзве трансфарматарныя падстанцыі на 330 кВ у Вісагінаскім і Уценскім раёнах будуць рэканструяваны з прыцягненнем фондаў ЕС. Будзе дэмантавана самая магутная высакавольтная лінія на 750 кВ, якая злучае Ігналінскую АЭС з Беларуссю. Акрамя таго, з Ігналінскай падстанцыі ў Электрэнайскую размеркавальную станцыю будзе перанесены шунтуючы рэактар.

Літва лічыць адключэнне ад расійскай сістэмы IPS/UPS, якая аб’ядноўвае сістэмы Беларусі, Расіі, Эстоніі, Латвіі і Літвы (электракальцо БРЭЛЛ), прыярытэтам у развіцці энергетыкі.

Народная Воля http://www.nv-online.info
22 МАЯ 2018 г.

ШАХМАТЫ

## Складальнік з Камянца

Мініяцюру, якая прапануцца чытачам “Народная Волі” для рашэння, склаў **Васіль Бачай**. Васіль Уладзіміравіч нарадзіўся ў 1947 годзе ў Камянецкім раёне. Па прафесіі ён гідратэхнік, працаваў у перасоўнай механізаванай калоне на Камянеччыне. Пачынаючы з 1964 года склаў каля сотні шахматных задач.



**Белыя:** Кра1, Фg3, Ла4, Са5 (4).
**Чорныя:** Крb3, Сb5, пd3 (3).
**Мат у 2 хады.**

Дасылайце рашэнні на адрас рэдакцыі ***(220030 г.Мінск, вул.Энгельса, 34а)*** або на электронны адрас: ***vadim_ne67@mail.ru***.

## «Горныя» шахматы

У мінулым выпуску мы згадвалі выступленні беларускіх шахматыстаў на мужчынскім і жаночым чэмпіянатах Еўропы. Хаця нашы суайчынніці сёлета не сталі прызёрамі, на іх рахунку нямала цікавых выйграных партый. Вось два паядынкі з жаночага першынства, якое ладзілася ў славацкім горадзе Высокія Татры.

***Вольга Бадэлька – Вольга Гіра***

1.d4 Kf6 2.c4 e6 3.Кс3 Cb4 4.Фс2 d5 5.cd ed 6.Cg5 h6 7.Ch4 Кс6 8.e3 g5 9.Cg3 h5 10.Cd3 Фе7 11.0-0-0 С:с3 12.Ф:с3 Kb4 13.Фb3 h4 14.Ce5 Лh6 15.С:f6 Л:f6 16.Cb5+ Kpf8 17.a3 a6 18.Ce2 Кс6 19.Kf3 g4 20.Kd2 Л:f2 21.Лde1 К:d4 22.ed Л:e2 23.Л:e2 Ф:e2 24.Ф:d5 Ce6 25.Фс5+ Кре8 26.d5 Фе5 27.Ке4 Ф:е4 28.de Ф:е6 29.Фf2 Фh6+ 30.Kpb1 Kpf8 31.Лf1 Фg6+ 32.Кра1 Ле8 33.Ф:h4 Kpg7 34.Фg3 Ле7 35.Фс3+ f6 36.h3 gh 37.gh Фg5 38.Фf3 c6 39.Фf2 Kpf7 40.h4 Фh6 41.Лg1 Фh7 42.Фg3 Ле5 43.Фg4 f5 44.Фg5 Ле7 45.h5 Лd7 46.Ле1 Kpf8 47.Фf6+, 1:0.

***Ганна-Марыя Клек – Ланіта Сіяцко***

1.e4 e5 2.Kf3 Кс6 3.Cb5 a6 4.Ca4 Kf6 5.0-0 Ce7 6.Ле1 b5 7.Cb3 d6 8.c3 0-0 9.h3 Ка5 10.Сс2 c5 11.d4 Фс7 12.Kbd2 cd 13.cd Лd8 14.Kf1 ed 15.К:d4 d5 16.e5 Ке4 17.a3 Cc5 18.Ce3 Кс4 19.b4 Cb6 20.a4 ba 21.С:а4 Cb7 22.Лс1 К:е3 23.fe Ф:е5 24.Сс6 С:d4 25.ed Фе7 26.Ке3 С:с6 27.Л:с6 Ф:b4 28.К:d5 Л:d5 29.Л:е4 g6 30.Лс7 Лаd8 31.Фf1 Лf5 32.Фа1 a5 33.Лсе7 Лdd5 34.Kph1 Фс4 35.Фа3 Kpg7 36.Фе3 a4 37.Ла7 Фb4 38.Фd3 Фb3 39.Ле3 Ф:d3 40.Л:d3 Ла5 41.Л:а5 Л:а5 42.Ла3 Kpf6 43.Kpg1 Kpf5, 0:1.

## Юніёрскі «клас»

У Рагачове прызавую тройку першынства Беларусі да 20 гадоў сярод юнакоў склалі ***Міхаіл Нікіценка, Ягор Філіпец*** і ***Вольга Бадэлька*** (яна ўдзельнічала ў турніры юнакоў), сярод дзяўчат – ***Вольга Малацілава, Яўгенія Мацкевіч*** і ***Кацярына Бейненсон***. Вось як гулялі ў гэтым турніры чэмпіёны.

***Міхаіл Нікіценка – Аляксей Краміч***

1.d4 f5 2.g3 Kf6 3.Cg2 g6 4.Kf3 Cg7 5.0-0 d6 6.b3 0-0 7.Cb2 c6 8.Kbd2 Kbd7 9.Ле1 d5 10.c4 e6 11.Ke5 К:е5 12.de Kg4 13.Kf3 Фb6 14.e3 dc 15.h3 Kh6 16.Kd2 Лd8 17.Фс2 cb 18.ab Kf7 19.f4 Фс7 20.Kph2 Cd7 21.e4 a5 22.ef gf 23.g4 fg 24.hg Kh6 25.Kpg3 Ce8 26.Ce4 Cg6 27.С:g6 hg 28.Kf3 Фf7 29.Kg5 Фе8 30.Ке4 Kf7 31.Kf6+ С:f6 32.ef Kd6 33.Лh1 Фf7 34.Лh6, 1:0.

***Вольга Малацілава – Маргарыта Храпко***

1.e4 c5 2.Кс3 e6 3.Kf3 Кс6 4.d4 cd 5.К:d4 Kf6 6.К:с6 bc 7.e5 Kd5 8.Ке4 Фс7 9.f4 Фb6 10.Cd3 Са6 11.a3 С:d3 12.Ф:d3 f5 13.Kf2 Cc5 14.Kd1 a5 15.c4 Фа6 16.b3 0-0 17.Kb2 Kb6 18.Cd2 Лfd8 19.Cc3 d5 20.ed Л:d6 21.Фе2 Лаd8 22.Фе5 Cd4 23.С:d4 Л:d4 24.Ф:е6+ Kph8 25.0-0 Фа7 26.Kph1 Фd7 27.Фе5 a4 28.c5 Ле8 29.cb Л:е5 30.fe ab 31.a4 g6 32.a5 Лb4 33.a6 Л:b6 34.a7, 1:0.

## Чэмпіён Літвы – беларус

Міжнародны майстар з Клічава ***Аляксандр Булаўка*** выйграў першынство Літвы па рашэнні кампазіцый. “Серабро” таксама ў беларуса – мінчаніна ***Мікалая Сігневіча***.

## На любы густ

У гэтай пазіцыі (**белыя:** Крb7, Cd8, Kf7, пп. e4, e7, g6 (6); **чорныя:** Кре6, пd6 (2)) белыя пры сваім ходзе могуць даць мат у 1, 2, 3 і 4 хады. Знайдзіце іх.

## Праверце адказы

Задача ***М.Лысёнка*** ад 2 мая рашаецца: **1.Kb4.** Не вядзе да мэты 1.Kf4? з-за 1…Фh5 (h1, g2)!

У задачы ***Ю.Фокіна*** белыя вяртаюць свой апошні ход (белая пешка f7 пабіла чорнага каня на поле g8 і сама ператварылася ў каня) і матуюць ходам 1.f7-f8Kх. Першымі правільна адказалі ***Васіль Жуковіч, Ігар Гулік, Ігар Ананіч***.

На шэраг ранейшых задач правільныя адказы даслалі ***Леанід Калодка, Уладзімір Панько, Мікалай Шкляр эўскі.*** А ***Ігар Ананіч*** і ***Яўген Смірноў*** знайшлі нерашальнасць у задачы-жарце А.Уайта з выпуска ад 3 студзеня: пасля 7.Лс5+ чорны кароль уцякае на d7, і “лесвіца з шахаў” больш не працуе. Для выпраўлення дастаткова дадаць на d7 чорную пешку.

**Вадзім ЖЫЛКО.**



ФУТБОЛ

# Брэст у экстазе!

*Брэсцкае “Дынама” другі раз запар заваявала Кубак Беларусі па футболе.*

Яшчэ некалькі гадоў таму пра гэты клуб узгадвалі толькі ў сувязі з яго гаротным станам. Каманда ледзь выжывала без грошай, іх не было не толькі на заробкі футбалістам, але нават каб аплаціць інтэрнэт. Дайшло да таго, што форму ігракам куплялі балельшчыкі, а для анлайн-трансляцый даводзілася прасіць 3G-мадэм.

Два гады таму сітуацыя кардынальным чынам змянілася. У брэсцкае “Дынама” прыйшлі арабскія інвестары, клуб пачаў супрацоўнічаць з кампаніяй Sohra Overseas. Была створана новая структура – ТАА “Футбольны клуб “Дынама-Брэст”, клуб перадаў таварыству з абмежаванай адказнасцю правы на ўдзел у чэмпіянаце краіны, таварныя знакі, а таксама пачаў здаваць у арэнду базу і офіс, які раней планавалі прадаць, каб выплаціць даўгі. Старшынёй назіральнага савета “Дынама” стаў Сяргей Буйноўскі, які ў лютым 2016 года з-за хваробы быў вызвалены ад пасады намесніка старшыні Следчага камітэта.







Адным словам, у “сіне-белых” пачалося новае жыццё, і сёння пра этап безграшоўя ў клубе ўспамінаюць хіба што як пра страшны сон. Больш за тое! У мінулым годзе каманда заваявала Кубак Беларусі па футболе, у гэтым сезоне кіраўніцтва заявіла пра свае амбіцыйныя медалёвыя планы.

Але вішанькай на торце стала сенсацыйнае паведамленне: легендарны аргенцінскі футбаліст Дыега Марадона падпісаў кантракт з брэсцкім «Дынама» і стаў старшынёй праўлення клуба! Многія даволі скептычна паставіліся да факта такога супрацоўніцтва, кажучы пра звычайную піяр-акцыю, але тым не менш ваколфутбольная хваля ўзнялася няслабая.

Вось на гэтай хвалі “Дынама” і выйграла ў другі раз Кубак Беларусі, перамогшы ў фінале барысаўскі БАТЭ (3:2). Дзеля справядлівасці трэба сказаць, што матч, які праходзіў у Магілёве, і насамрэч атрымаўся баявым і драматычным, так што, думаю, ніхто з балельшчыкаў не пашкадаваў, што прыехаў у Магілёў.

А вось Дыега Марадона, на жаль, прыехаць не змог. У яго гэтымі днямі была больш важная і адказная праца – трэба было падтрымаць на прэзідэнцкіх выбарах у Венесуэле свайго сябра Нікаласа Мадуру, які, як і брэсцкае “Дынама”, перамог. Так што і Марадона задаволены, і Брэст у экстазе!

**Алесь СВЯТЛАНІЧ.**

ПА-ЗА ГУЛЬНЁЙ

Алесь СІВЫ



# Не наша свята

*Пакуль беларускія хакеісты чухаюць патыліцы пасля вылету з элітнага дывізіёна, зборная Швейцарыі паказала, як без “нарад па развіцці хакея” перамагаць каманды Канады і Фінляндыі і гуляць у фінале.*

Чэмпіянат свету ў Даніі завяршыўся, пераможцам другі раз запар стала зборная Швецыі. І гэта, безумоўна, не здзівіла, бо яшчэ да пачатку першынства стала вядома, што ў складзе скандынаўскай каманды будуць 16 хакеістаў з НХЛ. Узровень! А вось тое, што ў фінале са шведамі згуляе каманда Швейцарыі, якая ў чвэрцьфінале перамагла фінаў (3:2), а ў паўфінале – славутых канадцаў (3:2), для многіх стала поўнай нечаканасцю. Балельшчыкі, натуральна, памятаюць, што ў 2013 годзе зборная Швейцарыі ўжо заваёўвала сярэбраныя медалі на сусветным першынстве (*тады ў фінале швейцарцы таксама прайгралі шведам.* – **Аўт.**), але тым не менш толькі самыя ўпэўненыя аптымісты рабілі гэтым разам стаўкі на іх. Але ж не прагадалі!

У 2014 годзе на дамашнім чэмпіянаце свету зборная Беларусі перамагла ў Мінску швейцарцаў, але мы бачым, хто за чатыры гады прагрэсіраваў, а ў каго пачаўся працэс дэградацыі, які суправаджаўся нязменным правядзеннем “нарад па развіцці хакея”.

Швейцарцы без усялякіх нарад вызначыліся з тым, што ім рабіць і куды ісці далей. Па-першае, стварылі незвычайна моцны ўнутраны чэмпіянат і пры гэтым з высокай канкурэнцыяй. Чэмпіёны змяняюцца, усе каманды на ўзроўні, а значыць, у трэнераў зборнай не баліць галава з нагоды выбару хакеістаў нават тады, калі нехта не можа прыехаць з НХЛ. Па-другое, у Швейцарыі зрабілі стаўку на паўночнаамерыканскі вектар развіцця, і з 1998-га па 2015 год зборную ўзначальвалі канадскія спецыялісты, якія ў той жа час перадавалі вопыт мясцовым трэнерам. Канадзец Ральф Кругер увогуле быў настаўнікам швейцарскай каманды 12 гадоў запар (!), што для беларускай зборнай проста неверагодная лічба. У нас звычайна кіраўніцтва патрабуе выніку як мага хучэй, а калі нешта не атрымліваецца, то трэнеры вылятаюць са сваіх месцаў са свістам. Як правіла, “па пагадненні бакоў”.

Швейцарцы не хапалі рукамі гарачыя вуглі з вогнішча, а паступова ішлі да мэты. Не раз многія спецыялісты адзначалі: інстытут зборных у Швейцарыі развіваецца па адзіных, кожнаму зразумелых законах, у выніку чаго ігракі і трэнеры, акрамя ўсяго іншага, атрымліваюць сур’ёзную тактычную падрыхтоўку. І дадавалі, што такая сістэма – прыклад таго, як пры сур’ёзнай рабоце над павышэннем узроўню ўнутранага чэмпіянату, якасным падыходзе да выхавання моладзі можна разлічваць на высокія месцы зборнай.

Былы трэнер зборнай Расіі **Вячаслаў Быкаў**, які жыве ў Швейцарыі (*дарэчы, яго сын, Андрэй Быкаў, ужо выступаў у складзе маладзёжнай зборнай гэтай краіны.* – **Аўт**.), пра прагрэс швейцарскага хакея выказаўся так: *“Там вельмі сур’ёзна падыходзяць да дзіцяча-юнацкага хакея. Ёсць добры адукацыйны асяродак для трэнераў, пастаянныя курсы. Высокая якасць трэніровачнага працэсу і адбор дзяцей у секцыі – гэта той фундамент, на якім трымаецца дарослы хакей”*.

Зрэшты, сёння мы чужыя на гэтым хакейным свяце, хаця яно дакладна вернецца ў Мінск у 2021 годзе, калі Мінск ізноў будзе прымаць чэмпіянат свету. І нават калі зборная Беларусі да таго часу не выкараскаецца з ніжэйшага дывізіёна па спартыўным прынцыпе, яна ўсё роўна будзе гуляць на дамашнім першынстве. Гэта такі бонус для няўдачнікаў, хаця, спадзяёмся, да таго часу каманда вернецца ў эліту.

Да слова, чэмпіянат свету ў дывізіёне “1А” пройдзе з 29 красавіка па 5 мая наступнага года ў Астане. Сапернікамі беларусаў будуць зборныя Венгрыі, Славеніі, Літвы, Казахстана і Паўднёвай Карэі.

**P.S.** *У фінале чэмпіянату свету шведы перамаглі каманду Швейцарыі па булітах. У асноўны і дадатковы час лік гульні быў 2:2. У матчы за “бронзу” зборная ЗША перамагла канадцаў – 4:1.*

БУДЬТЕ ЗДОРОВЫ!

# Дожить до 100 лет: список простых правил

Старение – это генетически запрограммированный процесс. Но есть факторы, которые могут его ускорять или замедлять. Оказать влияние на биологическую программу своего организма можно с помощью определенных правил. Чтобы они были по-настоящему эффективными, важно соблюдать их на протяжении многих лет, пишет портал Reader’s Digest.



### Бросьте курить

Человек, который рано начал курить и бросил до 30 лет, может смело добавить к продолжительности своей жизни еще 10 лет. Если бросить курить в 60 лет, то продолжительность жизни увеличится на 3 года.

После отказа от курения уже на третий день человек почувствует прилив энергии и улучшение самочувствия: постепенно улучшится кровообращение, пройдет одышка и кашель, дыхание будет глубоким и чистым, уменьшится риск сердечных заболеваний и риск возникновения рака легких.

### Ведите активный образ жизни

Тридцать минут активности – это минимум, который необходимо соблюдать каждый день. Для этого не обязательно посещать спортзал, это могут быть, например, и три прогулки по десять минут. Главное – двигайтесь каждый день, а не проводите время лежа на диване или сидя за компьютером.

### Регулярно ешьте фрукты и овощи

Независимо от ваших любимых блюд каждый день ешьте фрукты и овощи (лучше сырыми), ведь это важный источник витаминов и минералов.

Также важно помнить о том, что многие фрукты и овощи содержат антиоксиданты, которые нейтрализуют окислительное действие свободных радикалов, способствующее возникновению различных образований (опухолей). Также антиоксиданты помогают обновлению клеток организма.

Больше всего антиоксидантов содержится в черносливе, свежих ягодах и фруктах, а также в какао-бобах, кофе и чайных листьях.

### Проверяйте состояние своего организма

Зачастую мы обращаемся к врачам за помощью только тогда, когда уже что-то болит, а вот на профилактику заболеваний нет ни времени, ни сил. Никто не говорит, что нужно проверяться раз в месяц, – этот вопрос лучше решить в индивидуальном порядке со своим врачом. Он посоветует, с какой регулярностью стоит проходить обследования.

### Сделайте сон приоритетом

Для большинства взрослых, которые хотят жить до 100 лет, это означает необходимость найти семь-восемь часов на ночной сон. Если для вас это трудно, постарайтесь создать максимально комфортные и расслабляющие условия для сна. В противном случае, лишая себя полноценного ночного отдыха, вы увеличиваете риск возникновения сердечных заболеваний, рака и т.д.

### Знайте показатели своего давления

Учитывая современный ускоренный темп жизни и полные стресса будни, профилактические проверки следует проводить начиная с 25-летнего возраста: раз в 2 года нужно измерять не только давление, но и уровень сахара и холестерина в крови, сердечный пульс. Начиная с 40 лет такие проверки рекомендуется проводить ежегодно. Если хотите дожить до 100 лет, то старайтесь удерживать давление на отметке 120/80.

### Не отгораживайтесь от окружающего мира

Одиночество – это одна из форм стресса. Друзья, семья и домашние животные помогают нам чувствовать себя любимыми, поэтому старайтесь планировать свою жизнь так, чтобы в ней находилось место для общения с близкими.

### Сократите потребление насыщенных жиров

Это сырье, которое ваше тело использует для производства «плохого холестерина». Если вы хотите жить долго, то придерживайтесь правильного питания.

### Управляйте стрессом

Жизнь с неконтролируемым стрессом более разрушительна для нашего здоровья, чем лишние 10 кг, поэтому найдите свою формулу успеха в борьбе с негативными эмоциями.

### Не пропускайте завтрак

Составьте свой рацион питания таким образом, чтобы на завтрак пришелся самый плотный прием пищи. Далее на протяжении дня постепенно уменьшайте объемы порции, а ужин пусть будет легким.

### Готовьте дома

Этот совет вы наверняка слышали много раз, а все потому, что он действительно работает. Мало того, что вы контролируете ингредиенты, из которых будете готовить, и тем самым делаете более здоровый выбор, так еще и сам процесс приготовления пищи является мини-тренировкой.

### Не торопитесь во время еды

Еда во время вождения или торопливый прием пищи «включают» гормоны стресса, которые мешают процессам переваривания и усвоения съеденного. Поэтому сядьте и спокойной поешьте, а еще лучше соберите друзей, семью или коллег (в зависимости от места) и насладитесь едой вместе.

### Создавайте накопления

Обратите внимание, что большинство долгожителей – это финансово обеспеченные люди. Им не нужно беспокоиться о деньгах, в том числе и о том, хватит ли их в случае возникновения каких-то проблем со здоровьем. Чтобы не переживать по этому поводу, создавайте накопления. И если сейчас это кажется нереальным, попробуйте начать с малого, чтобы такие действия вошли в привычку.

### Сосредоточьтесь на хорошем

Исследования показывают, что люди, которые живут до 100 лет и дольше, редко жалуются. Это может означать, что они лучше справляются с трудными ситуациями, которые возникают в жизни каждого человека и выход из которых может найти только он сам. Поэтому старайтесь смотреть на жизнь максимально позитивно, анализируя, как тот или иной минус можно превратить в плюс.

**Адрас рэдакцыі: 220030 Мінск, вул.Энгельса, 34а.**
**Прыёмная: тэл./факс (017) 328-68-71.**
**Рэкламны аддзел (017) 328-66-09.**
**nvonlineinfo@gmail.com http://www.nv-online.info**

**Падпісныя індэксы:**
**63222 – для індывідуальных падпісчыкаў,**
**632222 – для прадпрыемстваў і арганізацый.**

**Заснавальнік і галоўны рэдактар Іосіф Паўлавіч СЯРЭДЗІЧ**



9 772071 964000 18041

Паколькі ў рэдакцыі няма магчымасці рэцэнзаваць і вяртаць нявыкарыстаныя матэрыялы, яна пакідае права ўступаць у перапіску за сабой. За інфармацыю, размешчаную ў рэкламных аб'явах, рэдакцыя не адказвае. Могуць друкавацца матэрыялы, у якіх пазіцыя аўтараў не падзяляецца газетай. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродку масавай інфармацыі №947 ад 6 студзеня 2010 г. выдадзена Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь (пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі №224 ад 6 сакавіка 2000 г.). Надрукавана ў друкарні дзяржаўнага прадпрыемства «Выдавецтва «Беларускі Дом друку». ЛП №02330/106 ад 30.04.2004. Мінск, пр. Незалежнасці, 79. Падпісана ў друк 21.05.2018 у 17.00. Аб'ём 4 друк. аркушы. Тыраж 24 010 экз. Заказ № 1614.